КУЛЬТУРА › ГРАМАДСТВА › ЭКАНОМІКА ›
ЛЮДЗІ › ПАДЗЕІ › ФАКТЫ

‹ № 28 (300) ‹ 13 ліпеня ‹ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



**ІНЭСА КРУТАЯ**

Стар. 5

**ПРА РОЛЮ СІМВАЛАЎ У ПАБУДОВЕ НАЦЫІ**

У расколатым беларускім грамадстве ў кожнай яго часткі — свае сімвалы

Стар. 5

**МЕКСІКАНСКІ ПАСЬЯНС**

2 ліпеня ў Мексіцы кандыдат кіруючай Партыі нацыянальнага дзеяння (PAN) прайграў кандыдату ад апазіцыі. Алег Новікаў пацікавіўся ў мексіканскага культуролага і лінгвіста Леанарда Эстрада Мендэса, якім чынам гэта паўплывае на развіццё краіны і ўсяго рэгіёну Лацінскай Амерыкі

Стар. 11

**РАССТРЭЛ ПА РАЗНАРАДЦЫ**

Стар. 15

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**АДЫСЕЯ АРКАДЗЯ НАФРАНОВІЧА**

Нарыс Лявона Целеша

**З НАГОДЫ**

# МОЦ ПЛЮШАВАГА ДЭСАНТУ

Вольга ХВОІН

**Плюшавы дэсант медзведзянят на Беларусь мае ўсе шанцы ўвайсці як мінімум у падручнікі па піяру. Хто б мог падумаць, што маналіт беларускага «шчыту Айчыны» і пагрозлівай «апошняй дыктатуры» абрынецца пад ціскам цацачных мядзведзікаў! І Беларусь паўстане ў вобразе недарэкі, што ўчора пахваляўся сваёй моцай, а сёння праваронію атаку цацачных мядзведзікаў з неба.**




Цымусу ў гэтую пазітыўную гісторыю дадае той факт, што атака плюшавых мядзведзікаў на Беларусь была здзейснена назаўтра пасля 3 ліпеня, калі ў Мінску прайшоў урачысты парад ваеннай тэхнікі, у тым ліку з дэманстрацыяй сучасных сродкаў СПА і палётаў ваеннай авіяцыі. А 4 ліпеня шведскі сайт thelocal.se паведаміў аб зладжанай PR-акцыі, што была падрыхтаваная ў Швецыі і ажыццёўленая шведскімі пілотамі з тэрыторыі Літвы. Па версіі шведскай PR-фірмы «Studio Total», каля 4 гадзін раніцы шведскія пілоты паднялі з тэрыторыі Літвы лёгкаматорны самалёт, увайшлі ў паветраную прастору Беларусі, абышлі абарону ВПС-СПА, скінулі сотні плюшавых цацак з прымацаванымі да іх агітацыйнымі матэрыяламі ў падтрымку свабоды слова і паспяхова вярнуліся назад. Мінабароны і Дзяржпагранкамітэт Беларусі, канешне ж, выступілі з аспрэчаннем дадзенага паведамлення. Хаця ёсць відэаздымкі, і нават артэфакты гэтага страшнага налёту — мядзведзікаў знайшлі ў Івянцы.

Разам з тым, паводле афіцыйнай версіі, хаця мядзведзяў як бы і не было, камісія кіраўніка Беларусі праводзіць праверку ўсіх злучэнняў і вайсковых частак ваенна-паветраных сіл і войскаў супрацьпаветранай абароны краіны. Падставай для гэтага паслужыла акурат інфармацыя аб незаконным перасячэнні мяжы 4 ліпеня аднаматорным самалётам са шведскім экіпажам, які раскідаў плюшавых мядзведзяў над Івянцом і заходняй ускраінай Мінска, пралятаў над мінскай ЦЭЦ-4. У склад камісіі ўваходзяць прадстаўнікі Савета бяспекі і Міністэрства абароны, паведамляе БелаПАН.

Цікава, што афіцыйныя СМІ гэтую падзею праігнаравалі. Хіба што ідэолаг Вадзім Гігін апублікаваў артыкул, у якім даводзіць, што мядзведжага дэсанту не было, дый быць не можа, а мяжа на замку.

У гэты выпадак насамрэч паверыць складна. З аднаго боку, беларусам не зразумела, навошта шведам, якія жывуць у паспяховай краіне, рызыкаваць жыццём ды ляцець у Беларусь ладзіць акцыі ў падтрымку нейкай там свабоды слова. Беларусам гэта сто год не патрэбна, таму ўчынак шведаў для абывацеля не лагічны і не мэтазгодны. Насцярожваць можа і той факт, што кіраўнік дзяржавы не ўчыніў «публічнае лупцаванне» і адстаўку вайсковых міністраў. Няма вінаватых — няма і здарэння.

Але сіла плюшавых мядзведзікаў як гуманістычнага вобразу выявілася аграмаднай. Недзяржаўныя СМІ Беларусі тыдзень пісалі пра гэты надзвычайны выпадак, надалі ўвагу нечаканаму дэсанту і замежныя СМІ. Беларусь паўстала не ў традыцыйным вобразе парадку і дыктатуры, а як разгільдзяйскі антураж (пілот самалёта ў адным з інтэрв'ю прызнаўся: 4 ліпеня выбралі акурат з меркаваннаў, што пасля святкаванняў на Дзень незалежнасці вайскоўцы будуць лячыць пахмелле) для адчайнага і пазітыўнага ўчынку. Плюшавыя мядзведзікі, калі яны насамрэч былі тут, даказалі, што лязганне жалезам і спробы даказаць свету, што нас трэба баяцца, усяго толькі паветраны балонік, які лёгка здзімаецца. Калі ж мядзведзікаў не было (але відэа сведчыць пра адваротнае), то гэта прыклад у тым ліку і для беларускай апазіцыі, як сур'ёзнае і пужаючае рэпрэзэнтаваць праз мілыя і зразумелыя вобразы.

Цяпер ужо і не важна, лёталі шведскія мядзведзікі над Беларуссю ці не. Пазітыўная акцыя прыцягнула ўвагу да краіны. Пра Беларусь, канешне ж, гаварылі ўсё адно ў звязку з праблемамі са свабодай слова, аўтарытарным рэжымам і гэтак далей. Але ў гэтым выпадку ўсё выглядала лагодна, весела, па-людску. Не параўнаць медыйную нагоду цяпер і ў снежні 2010 года. Плюшавы мядзведзік як сімвал увогуле мае шанцы аднойчы ўзначаліць калоны пратэстоўцаў. Хіба што да гэтага часу ўлады прыкрыюць лініі па вытворчасці мядзведзяў на фабрыках цацак, каб з маленства не прывучаць беларусаў да сімвалаў і міфаў свабоды.

ВЫБАРЫ

# ПРАГРЭСУ НЯМА

Генадзь КЕСНЕР

**Прагрэсу ў фарміраванні акруговых выбарчых камісіяў падчас парламенцкай кампаніі — 2012 не назіраецца. Пра гэта 11 ліпеня паведамілі прадстаўнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары».**

Па словах намесніка старшыні зачыненага ўладамі Праваабарончага цэнтру «Вясна» Валянціна Стэфановіча, камісіі былі створаны з колькасцю сяброў ад 9 да 13 чалавек, сярэдні конкурс на месца склаў 1,5 чалавекі на месца, у некаторых абласцях — да 2 чалавек. З апазіцыйных партыяў 48 чалавек патрапілі ў акруговыя выбаркамы, гэта складае 24% ад вылучаных імі партыйцаў. Агульная вага апазіцыйных чальцоў у акруговых камісіях складае 3,3%.

«Як і раней, абазначыліся асноўныя «арганізатары» выбараў. Гэта чатыры буйныя праўладныя грамадскія арганізацыі: ФПБ, «Белая Русь», БРСМ, Беларускае аб'яднанне ветэранаў. Усе яны разам вылучылі ледзь не 92% кандыдатур ад усіх прадстаўленых грамадскіх арганізацыяў. Калі параўноўваць лічбы з папярэднімі выбарамі, можна сказаць, што працэнт кандыдатаў ад апазіцыйных партыяў, якія ўвайшлі ў камісіі, меншы, чым у 2008 годзе, хаця на тых выбарах была стратэгія, што вылучалі не менш як па адным прадстаўніку ад апазіцыі ў кожную акруговую камісію. То бок на 110 акруговых камісіяў было вылучана 118 кандыдатур. Але ўвайшло ў камісіі толькі 34% — на 8% больш, чым сёлета», — канстатаваў Валянцін Стэфановіч.

Кіраўнік «Беларускага Хельсінскага камітэта» Алег Гулак адзначыў адсутнасць прагрэсу ў фарміраванні акруговых камісіяў параўнальна з мінулай парламенцкай кампаніяй.

«На гэтых выбарах мы не пабачылі амаль нічога, што б адрознівалася ад папярэдніх выбараў. Па-ранейшаму пасяджэнні выканкамаў і прэзідыумаў Саветаў прайшлі ў вельмі хуткім рэжыме, яны вар'іраваліся ад пятнаццаці хвілін да адной гадзіны. Мелі невялікае адрозненне і працэдуры пасяджэнняў: у некаторых абласцях можна было задаваць пытанні і пачуць нейкія адказы. У Брэсце старшыня выканкаму нават прапанаваў уключыць апазіцыянераў у склад камісіяў, — адзначыў старшыня БХК. — Але агульная карціна засталася ранейшай». Па словах Гулака, падчас пасяджэнняў не было ніякага публічнага абмеркавання кандыдатур, нават не зразумела, па якіх крытэрыях людзі траплялі ў склад акруговых камісіяў. Алег Гулак падкрэсліў, што ў беларускім заканадаўстве не прапісаны менавіта крытэрыі, паводле якіх асоба можа трапіць у склад выбарчай камісіі.

Падводзячы рысу, Алег Гулак адзначыў, што, як паказваюць сацыялагічныя даследаванні, цікавасць да восеньскіх выбараў вельмі невялікая, а гэта праблема і выклік, які павінны разумець і беларускія ўлады.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ДАШКЕВІЧУ ПАГРАЖАЕ НОВЫ ТЭРМІН

Генадзь КЕСНЕР

**Лідар зарэгістраванай у Чэхіі Міжнароднай моладзевай арганізацыі «Малады фронт» Зміцер Дашкевіч можа атрымаць новы тэрмін зняволення. Пра гэта намесніца старшыні арганізацыі Наста Палажанка даведалася падчас наведвання Глыбоцкай калоніі №13, дзе палітвязень адбывае пакаранне ў выглядзе двух гадоў пазбаўлення волі. Тэрмін пазбаўлення волі апазіцыянеру можа быць падоўжаны на год.**

Як паведаміла Наста Палажанка «Новаму часу», адміністрацыя папраўчай установы яшчэ 6 ліпеня накіравала ў Следчы камітэт матэрыялы аб распачацці новай крымінальнай справы паводле часткі 1 артыкула 412 Крымінальнага кодэкса Беларусі.

«Гэты артыкул даволі вядомы ў турэмнай сістэме, ён прадугледжвае пакаранне за непадпарадкаванне турэмнаму рэжыму, — падкрэсліла паплечніца Змітра Дашкевіча. — У адказ Зміцер напісаў ліст начальніку калоніі, што ён ад сённяшняга дня адмаўляецца выконваць любыя патрабаванні адміністрацыі любых калоніяў, дзе б ён ні знаходзіўся. Ён звярнуўся да тых людзей, якія ствараюць розныя правакацыі ў дачыненні да яго, да тых, якія яго зняволілі і якія сочаць, каб яго знаходжанне ў турме было нясцерпным, з заклікам даць яму па максімуме па дадзеным артыкуле і па ўсіх астатніх артыкулах, якія яны збіраюцца заводзіць супраць яго ў кожнай новай калоніі».

Наста Палажанка звязвае такое стаўленне ўладаў да Змітра Дашкевіча з тым, што ён з'яўляецца незаконна асуджаным.

«Фактычна, увесь час зняволення Зміцер знаходзіцца ў штрафных ізалятарах і карцэрах, і ён не збіраецца гуляць у гэтыя гульні і ўдзельнічаць у нейкіх правакацыях, якія пастаянна маюць месца ў калоніях. Таму ён лічыць, што не абавязаны выконваць патрабаванні адміністрацыі калоніі, бо яны з'яўляюцца незаконнымі. Як гэта было раней, так гэта і працягваецца зараз. Гэтым самым ён дэманструе: перастаньце нас ламаць у турме!» — адзначыла намесніца старшыні «Маладога фронту».

Зміцер Дашкевіч і яго паплечнік Эдуард Лобаў былі затрыманыя ў Мінску 18 снежня 2010 года, за дзень да выбараў кіраўніка дзяржавы. Абодвух маладзёнаў абвінавацілі ў хуліганстве і 24 сакавіка 2011 года асудзілі, адпаведна, да двух і чатырох гадоў пазбаўлення волі. Зміцер Дашкевіч мусіў выйсці на волю 18 снежня 2012 года. Лідар маладафронтаўцаў катэгарычна не прызнае сябе вінаватым, ён адмовіўся падаваць прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі. Праваабарончыя арганізацыі прызналі Змітра Дашкевіча, як і Эдуарда Лобава, палітычным зняволеным.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# У КАРНЯЕНКІ ПРАЙШОЎ ПЕРАТРУС

Генадзь КЕСНЕР

**У кватэры сустаршыні кампаніі «За справядлівыя выбары», экс-дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання Віктара Карняенкі ў пасёлку Фаніпаль адбыўсяператрус.**

Яго зладзілі супрацоўнікі міліцыі Дзяржынскага раённага аддзелу ўнутраных справаў. У выніку вобшуку праваахоўнікі склалі пратакол і сканфіскавалі дзясяткі пакункаў з газетай «За справядлівыя выбары».

Як паведаміў Віктар Каняенка «Новаму часу», нейкі невядомы патэлефанаваў у міліцыю і сказаў, што ў кватэры сустаршыні кампаніі «За справядлівыя выбары» знаходзіцца незаконная друкаваная прадукцыя. Прынамсі так грамадскаму дзеячу паведамілі самі міліцыянты, якія прыбылі да яго дадому. Яны правялі дагляд у прысутнасці панятых, склалі пратакол і забралі семдзесят два пачкі з газетай «За справядлівыя выбары». Забіраючы газеты, праваахоўнікі сказалі спадару Карняенку, што будзе праведзеная экспертыза гэтай друкаванай прадукцыі на прадмет законнасці яе выпуску.

«Гэта знак таго, што пачалася выбарчая кампанія. І была гэта пераважна не міліцыя, а спецслужбы, бо цэлая куча стажораў стаяла за спінамі прыехаўшых да мяне міліцыянтаў, — адзначыў Віктар Карняенка. — Ва ўладаў ёсць жаданне падавіць абсалютна ўсю актыўнасць, якая адбываецца вакол выбараў. Я звязваю гэта выключна з тым, што я з'яўляюся адным з каардынатараў кампаніі «За справядлівыя выбары», а гэтыператрус ёсць псіхалагічным ціскам. З назіраннем выбараў будзе толькі працягваецца напампоўванне страху. На вялікі жаль, у маю сітуацыю могуць патрапіць яшчэ больш актывістаў, чым гэта было раней. Каб займацца фальсіфікацыяй выбараў, трэба прымаць усё больш жорсткія захады. Калі раней злоўжыванні было магчыма рабіць на нейкім адміністрацыйным рэсурсе, то чым далей, тым больш намаганняў для гэтага трэба прыкладаць. І мой сённяшні выпадак — гэта адзін з такіх момантаў».

СКАРГА

# ЗАЧЫНІЦЬ АКРЭСЦІНА

**10 ліпеня вядомы праваабаронца Алег Волчак звярнуўся ў суд Маскоўскага раёна Мінска са скаргай на ўмовы ўтрымання ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна.**

«Умовы ўтрымання ў ЦІП з'яўляюцца нялюдскімі і зневажаюць чалавечую годнасць, не адпавядаюць Мінімальным стандартным правілам абыходжання са зняволенымі, прынятымі ААН», — гаворыцца ў скарзе.

Таксама Волчак пералічвае ў скарзе ўсе тыя нормы і артыкулы, якія былі парушаны падчас яго знаходжання на Акрэсціна:

«Матрац, коўдра, падушку і пасцельную бялізну не выдаюць. Асобнае спальнае месца не прадстаўляецца, спаць даводзілася на голых дошках разам з астатнімі арыштаванымі, што з'яўляецца парушэннем ч. 1 арт. 25 Правілаў №194. Таксама дадзены факт з'яўляецца парушэннем Мінімальных стандартных правіл абыходжання са зняволенымі ААН, а менавіта арт. 19.

...У камеры №21 агульнай плошчай прыкладна 7 квадратных метраў колькасць зняволеных была 6 чалавек, што груба парушае ч. 1 арт. 18.7 ПіКОАП (норма плошчы на аднаго чалавека ўсталёўваецца, як правіла, не меней чатырох квадратных метраў). Лічу, што гэта з'яўляецца нялюдскім абыходжаннем.

...У камеры меўся туалет, аднак ён быў зламаны. Вада з крана ўвесь час цякла, што стварала невыносны шум, асабліва па начах. Рукамыйніца была побач з туалетам. Перагародкі, якая аддзяляе ўнітаз ад камеры, не было. Памер туалетнага пакоя такі, што, калі чалавек спраўляе патрэбу, ён змушаны рабіць гэта навідавоку ў іншых арыштаваных. Прымаць ежу даводзілася ў непасрэднай блізкасці ад унітаза (1–2 метра). Дадзеныя акалічнасці сведчаць пра парушэнне арт. 12 Мінімальных стандартных правіл абыходжання са зняволенымі ААН.

Штодзённых шпацыраў на свежым паветры не было, што парушае п. 7 арт. 18.7 ПіКОАП, а таксама арт. 96, 97 Правілаў №194».

У сваёй скарзе праваабаронца просіць суд прызнаць дзеянні (бяздзейнасць) дзяржаўнага органа, што падверг яго нялюдскаму абыходжанню, якое зневажае чалавечую годнасць, пры ўтрыманні ў цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкама, неправамернымі. Яны ўшчамляюць правы, гарантаваныя артыкулам 7 Міжнароднага пакта пра грамадзянскія і палітычныя правы.

А таксама Алег Волчак просіць зачыніць Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў для прывядзення яго ўмоў утрымання ў адпаведнасць з Мінімальнымі стандартнымі правіламі абыходжання са зняволенымі, прынятымі ААН.

ЗВАРОТ

# КАЛІ ВЫРАШАЦЬ ПРАБЛЕМУ АДПІСАК?

Марат ГАРАВЫ

**9 ліпеня каля 30 грамадзян з усіх рэгіёнаў краіны накіравалі кіраўніку дзяржавы тэлеграмы з просьбай вырашыць праблему адпісак з органаў суда і пракуратуры. Аўтарамі паштовых адпраўленняў з'яўляюцца актывісты Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры.**

У тэлеграмах, між іншым, адзначаецца, што па пытанню адпісак з органаў суда і пракуратуры на звароты грамадзян прадстаўнікі ініцыятывы за апошнія пяць гадоў 36 разоў звярталіся да прэзідэнта. «Аднак Вы ні разу з намі не сустрэліся і не адказалі нам. Чыноўнікі Вашай адміністрацыі спынілі з намі ліставанне. Яны зрабілі гэта па Вашай указцы ці самастойна? Згодна з Канстытуцыяй, улада ў краіне належыць народу. І калі Вас абраў народ, дык як з ім можна спыніць ліставанне?» — гаворыцца ў паштовых адпраўленнях.

У каментары «Новаму Часу» лідар ініцыятывы, юрыстка Тамара Сяргей адзначыла, што Адміністрацыя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у парушэнне пункту 5.22 Палажэння аб Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, не разглядае і не аналізуе звароты грамадзян, а таксама не ажыццяўляе кантроль за своечасовым і якасным вырашэннем дзяржаўнымі органамі пытанняў, які ўзнімаюцца грамадзянамі ў сваіх зваротах. Такім чынам, паводле яе слоў, адміністрацыя кіраўніка дзяржавы ўхіляецца ад выканання сваіх прафесійных абавязкаў.

«Улічваючы тое, што чыноўніцтва Адміністрацыі прэзідэнта ўтрымліваецца за кошт народа, заява супрацоўнікаў гэтай дзяржаўнай установы наконт спынення ліставання з прадстаўнікамі народа выглядае абсурднай», — падкрэсліла юрыстка.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЧАС ПАТРАБАВАЦЬ

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Нягледзячы на анамальную спёку мінулага тыдня, жыццё ў Беларусі ішло даволі імкліва. Некаторыя нарэшце заўважылі, што ў Беларусі ёсць кампанія па выбарах у парламент. Некаторыя адчулі, што грошай ім недаплачваюць, а некаторым паабяцалі — лепш не будзе. Так што сапсавалі людзям летні адпачынак, сапсавалі.**

Спачатку пра выбары. У першы ж дзень тыдня былі створаны акруговыя выбарчыя камісіі, а Міністэрства замежных спраў «праз галаву» Цэнтрвыбаркама запрасіла на выбары назіральнікаў ад АБСЕ. З гэтай нагоды галаўны боль адчуў нязменны сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік.

«Можаце мяне запісаць у апазіцыянеры, але я ўнутрана не згодны з запрашэннем місіі назіральнікаў ад АБСЕ», — заявіў сакратар Цэнтрвыбаркама Беларусі Мікалай Лазавік на прэс-канферэнцыі ў Мінску 11 ліпеня.

Ён заявіў, што «зняверыўся ў аб'ектыўнасці заключэнняў місіі АБСЕ». «Прэзідэнцкія выбары 2010 года былі высока ацэнены практычна ўсімі назіральнікамі. У папярэдняй справаздачы БДІПЧ АБСЕ нават было напісана, што працэс галасавання праходзіць добра. Але затым усе станоўчыя моманты былі выкінутыя, а пакінуты толькі негатыў. Еўрачыноўнікі сфальсіфікавалі вынікі назірання, замяніўшы іх палітызаванымі ацэнкамі. Яны ацэньвалі не вынікі выбараў, а далі палітычную ацэнку мерапрыемству «Плошча», — заявіў Лазавік.

**Грамадзянам не да весялосці. 10 ліпеня ў Мінску намеснік міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі Анатоль Шагун заявіў, што да канца года тарыфы на паслугі ЖКГ будуць яшчэ павышацца**

У той жа час ён падкрэсліў, што будзе выконваць сваю работу па забеспячэнні зручнай працы назіральнікаў, у тым ліку ад АБСЕ. «Недахопу ў місіях не будзе», — запэўніў сакратар ЦВК.

Так што замежныя назіральнікі ўсё ж такі прыедуць. І створаць шэраг праблемаў Лазавіку, якому давядзецца хоць і нехаця, але выконваць іх запатрабаванні.

Тым жа часам на апераджэнне працуе Мінгарвыканкам. Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты парламента пачнецца толькі 15 ліпеня. Але ўжо зараз Мінгарвыканкам вызначыў месцы ў сталіцы, забароненыя для пікетавання з мэтай збору подпісаў выбаршчыкаў па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты.

У прыватнасці, подпісы нельга будзе збіраць на аб'ектах метрапалітэна (за выключэннем тэрыторый падземных пешаходных пераходаў), чыгуначнага і паветранага транспарту; на тэрыторыі некаторых плошчаў сталіцы — Кастрычніцкай, Незалежнасці, Перамогі, Прывакзальнай.

Таксама забароненыя пікеты бліжэй за 200 метраў ад будынкаў рэзідэнцыі прэзідэнта, Нацыянальнага сходу і Савета міністраў і на адлегласці менш як 50 метраў ад будынкаў органаў дзяржкіравання, дыпламатычных прадстаўніцтваў і консульскіх устаноў, судоў, органаў пракуратуры, тэрытарый арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва.

Калі ўсё гэта будзе выканана, здаецца, сёлетняя перадвыбарчая кампанія будзе падобная на прэзідэнцкую — такая ж вясёлая і каляровая. Тым больш, што, па словах Лазавіка, пікеты для збору подпісаў выведзеныя са сферы закона аб правядзенні масавых сходаў — гэта значыць, для іх не патрабуецца атрымліваць дазвол уладаў.

Сакратар ЦВК нават параіў прадстаўнікам палітычных партый вылучацца не ад партыі, а шляхам збору подпісаў, бо людзі занадта мала ведаюць пра партыйныя структуры, патлумачыў ён. Так што ў апазіцыі зноў ёсць шанец выйсці на вуліцы. Ці скарыстаюць яны гэтую магчымасць, мы пабачым літаральна на днях.

Але грамадзянам не да весялосці. 10 ліпеня ў Мінску намеснік міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі Анатоль Шагун заявіў, што да канца года тарыфы на паслугі ЖКГ будуць яшчэ павышацца. Паводле слоў чыноўніка, урадам на гэты год вызначана тарыфная палітыка, згодна з якой павышэнне тарыфаў на паслугі ЖКГ у разліку на стандартную двухпакаёвую кватэру з трыма жыльцамі павінна скласці не больш за 5 долараў. «Тыя павышэнні, якія адбыліся ў красавіку і чэрвені, далі пакуль рост прыкладна на 2,5 долара, з якіх 1,3 долара — па сістэме ЖКГ (вада, каналізацыя) і 1,2 долара — па сістэме Міністэрства энергетыкі (цеплазабеспячэнне). У тым жа дыяпазоне трэба чакаць павышэння і да канца гэтага года», — адзначыў намеснік міністра.

Паводле яго слоў, з улікам павышэння тарыфаў, з 1 чэрвеня працэнт пакрыцця расходаў на паслугі ЖКГ складае 14,7%, без уліку расходаў на электраэнергію і газ.

На тыдні з-за нявыплаты рабочым цэха зборкі трактароў часткі прэміяльных узнік канфлікт на Бабруйскім заводзе трактарных дэталяў і агрэгатаў. Рабочыя цэха зборкі трактароў у знак пратэсту супраць пазбаўлення іх прэміяльных выплат палічылі неабходным звярнуцца да «італьянскага» страйку — гэта тады, калі працуеш, але выконваеш дакладна ўсе тэхнічныя нормы і працоўнае заканадаўства. То бок «пад'ём, адбой, абед па раскладзе», і нічога лішняга. Вытворчасць у выніку падае да мінімуму. Да таго ж 18 чалавек з іх уступілі ў Свабодны прафсаюз.

Кіраўніцтва заводу спачатку пачало дзейнічаць па звыклых схемах — прыкладам, пагражала ўсім звальненнем. Але потым адумалася. Дырэктар хутка прыляцеў з камандзіроўкі, начальнік ідэалагічнай працы звольнены. Сітуацыя вырашаецца.

Яшчэ б не вырашалася! Бо гэта толькі страйк. А каб працоўныя раптам заявілі, што пакуль не вырашаць усе пытанні, яны на выбары не пойдуць? І сем'і іх не пойдуць, і знаёмыя не пойдуць? Вось тут бы быў скандал ужо рэспубліканскага маштабу!

Дарэчы, на мінулых выбарах такім чынам вырашаліся спрэчныя пытанні. «Шантажуючы выбарамі» грамадзяне дамагаліся добраўпарадкавання тэрыторый і рамонту дамоў. Так што зараз саспеў час чаго-небудзь патрабаваць.

Але нешта ж здараецца і прыемнае. Аляксандр Лукашэнка 10 ліпеня падчас наведвання прадпрыемства СТАА «Армянскі стандарт» ажыццявіў сімвалічны запуск першай у Беларусі лініі па разліву армянскага каньяку ў Мінску. Аб гэтым паведамляе прэс-служба прэзідэнта.

Лукашэнка азнаёміўся з тэхналагічным працэсам і сістэмай кантролю якасці прадукцыі. «Армянскаму каньяку ў Беларусі быць, — заявіў ён. — Беларусы гэтага не забудуць. Гэта першая вытворчасць у нашай краіне армянскіх каньякоў».

Звяртаючыся да сузаснавальніка прадпрыемства Гагіка Царукяна, Аляксандр Лукашэнка сказаў: «Ты чалавек слова: сказаў — зрабіў. Важна, каб нашы чыноўнікі такім людзям заўсёды давалі зялёнае святло». Лукашэнка адзначыў, што неабходна развіваць, павялічваць вытворчасць у краіне, і запрасіў бізнэсмэна больш актыўна ўдзельнічаць у рэалізацыі інвестпраектаў у Беларусі.

Галоўнае, каб гэтыя каньякі каштавалі столькі, каб беларусы забыліся на іх кошт, але ніколі б не забыліся на іх якасць. Хаця нашы «чарнілы» па кошце, канешне ж, ніхто не пераплюне.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ЛІДЗІЯ ЯРМОШЫНА



Мары збываюцца, хаця часам і не ў поўным аб'ёме. Старшыня Цэнтрвыбаркама Беларусі Лідзія Ярмошына пакуль не можа патрапіць у Парыж, як ёй таго б хацелася, але яна адправіцца ў Вену на канферэнцыю АБСЕ.

На дадатковай нарадзе па чалавечым вымярэнні «Дэмакратычныя выбары і назіранне за іх правядзеннем», якую АБСЕ праводзіць 12–13 ліпеня ў Хофбургскім кангрэс-цэнтры ў Вене, закране тэму ўдасканалення працы наглядальных місій.

Кіраўнік ЦВК распавяла, што падыме пытанні, накіраваныя на ўдасканаленне працы наглядальных місій. На яе думку, вырашаць спрэчныя моманты ў сферы міжнароднага назірання за выбарамі, якое праводзіць, у прыватнасці, АБСЕ, неабходна ў двухбаковым парадку. «Нам трэба перайсці ад крытыкі да справы, знаходзіць кампрамісныя варыянты, якія задаволяць абодва бакі», — цытуе Лідзію Ярмошыну БелТА.

У Хофбургскім кангрэс-цэнтры збяруцца старшыні цэнтральных выбарчых органаў краін АБСЕ. Яны разгледзяць пытанні правядзення дэмакратычных выбараў у кантэксце звязаных з імі абавязацельстваў АБСЕ, а таксама выкананне рэкамендацый, выкладзеных у справаздачах місій БДІПЧ АБСЕ. «Гэта вельмі карысная з прафесійнага пункту гледжання сустрэча», — падкрэсліла Лідзія Ярмошына, дадаўшы, што будзе прысутнічаць на ёй упершыню. «Калі выпрацавалася практыка падобных сустрэч, я ўжо была неўязной на тэрыторыю ЕС», — патлумачыла яна.

Раней такія нарады наведвалі іншыя члены Цэнтрвыбаркама. «У гэтым годзе мы паставілі ўмову: альбо ад Беларусі ў нарадзе будзе ўдзельнічаць кіраўніцтва ЦВК, або ніхто», — распавяла Лідзія Ярмошына.

### АНДРЭЙ КАБЯКОЎ



Пасол Беларусі ў Расіі Андрэй Кабякоў канстатуе, што адмова краін Еўрасаюза і ЗША ад кантактаў з Беларуссю тармозіць перамоўны працэс па ўступленні рэспублікі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, перадае interfax.by.

«Ёсць праблема з групай краін, якая не вядзе з намі двухбаковых перамоваў, прынцыпова ад гэтага адмаўляецца. Гэта краіны Еўрасаюза і ЗША», — заявіў Кабякоў.

Ён заўважыў, што Беларусь вядзе перамовы па ўступленні ў СГА досыць доўгі час, і з 10-ю краінамі дамоўленасці ўжо дасягнутыя.

«Нічога асаблівага, ніякіх сваіх пазіцый мы ў гэтых перамовах не саступалі і не саступаем. Таму нашы перамовы і не ідуць досыць хутка. Уступленне ў СГА любой цаной — гэта не наш лозунг», — падкрэсліў дыпламат.

Кабякоў таксама адзначыў, што ў мінулы панядзелак Канстытуцыйны суд Расіі прызнаў законнай дамову аб уступленні Расіі ў СГА.

У сувязі з гэтым ён адзначыў, што такое рашэнне Канстытуцыйнага суда не стварае праблем для Беларусі, якая разлічвала на актыўную падтрымку Расіі як сябра гэтай арганізацыі па вядзенню ўласных перамоваў.

### АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ



Фундацыя імя Генрыха Бёля ўзнагародзіла віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, беларускага праваабаронцу, палітвязня Алеся Бяляцкага прэміяй Петры Келі.

Былы пасол Германіі ў Беларусі Крыстаф Вайль у лісце да жонкі Алеся Наталлі Пінчук паведаміў, што прэмія прысуджана на знак прызнання дзейнасці Алеся Бяляцкага ў справе адстойвання правоў чалавека ў Беларусі. Дыпламат выказаў надзею, што Бяляцкі зможа атрымаць гэтую прэмію ўжо восенню ў Берліне.

Прэмія Петры Келі прысуджаецца ад 1998 года асобам ці групам асобаў за актыўны ўдзел у барацьбе за захаванне правоў чалавека, негвалтоўнае вырашэнне канфліктаў і абарону навакольнага асяроддзя. Прэмія была заснаваная ў памяць вядомай палітычнай дзячкі Петры Келі (1947–1992), якая брала ўдзел у стварэнні Партыі зялёных у Германіі.

Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі быў асуджаны летась на 4,5 гады турмы. Яго прызналі вінаватым у нявыплаце падаткаў. Праваабаронца заявіў, што ўсе грошы ішлі на праваабарончую дзейнасць. Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі прызналі Бяляцкага палітвязнем, а прысуд яму — палітычна матываваным.

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ПРА РОЛЮ СІМВАЛАЎ У ПАБУДОВЕ НАЦЫІ

Сяргей НІКАЛЮК

**У расколатым беларускім грамадстве ў кожнай яго частцы — свае сімвалы.**




На лозунг: *«Всё для человека, во имя человека»* я рэагую, быццам сабака Паўлава на званок: аўтаматычна дадаю фразу: *«И мы знаем, как зовут этого человека»*. З гэтым нічога не паробіш — далося ў знакі савецкае мінулае.

Стварэнне сімвалаў — адна з найважнейшых задач эліт. Сімвалы адыгрываюць ролю сацыяльных інтэгратараў. Без агульных сімвалаў насельніцтва, якое пражывае на пэўнай тэрыторыі, не здольнае адчуць сябе нацыяй. Нацыянальныя межы не заўсёды супадаюць з дзяржаўнымі. Узгадаем Польшчу ў перыяд падзелу. Мяжа паміж нацыямі палягае там, дзе на змену адным сімвалам-інтэгратарам прыходзяць іншыя.

Сімвалы выконваюць і прадстаўнічую функцыю. У свой час амерыканскі прэзідэнт Рональд Рэйган заўважыў: «Я думаў, Беларусь — гэта «Песняры» і Корбут». Чэмпіёнку мюнхенскай Алімпіяды гімнастку Вольгу Корбут сёння мала хто памятае. Такі лёс усіх вялікіх спартоўцаў, але «Песняры» (у іх мулявінскім варыянце), перажыўшы БССР, працягваюць сімвалізаваць Беларусь.

У расколатым грамадстве ў кожнай яго частцы — свае сімвалы. Па значку «Пагоня» на лацкане пінжака мы адразу разумеем, што перад намі свой, а па зялёна-чырвоным спартовым гарнітуры лёгка адрозніваем у вулічным натоўпе чужога.

## За кошт падаткаплатнікаў

Фармаванне нацыі — гэта не падзея, гэта працэс, падчас якога разгортваецца барацьба паміж канкуруючымі праектамі. Вылучым два асноўных: французскі і нямецкі. Галоўнымі дзейнымі асобамі першага праекта ў Еўропе былі дзяржаўныя дзеячы: юрысты, дыпламаты, вайскоўцы. Яны фармавалі нацыі ў межах ужо існуючых дзяржаў. Нацыі ж, якія спазніліся, перадусім італьянская і нямецкая, прайшлі іншы шлях развіцця: ад фармавання нацыянальнай самасвядомасці да выбудоўвання нацыянальнай дзяржавы. Таму на пачатковым этапе такой значная была роля інтэлектуалаў (пісьменнікаў, гісторыкаў), і толькі потым за справу браліся палітыкі (Бісмарк у Германіі, Кавур у Італіі).

Нам бліжэй французскі шлях, бо Рэспубліка Беларусь свайму з'яўленню на карце абавязана найперш партыйнай наменклатуры, якая актыўна дзяліла на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя савецкія прамысловыя актывы.

Але ніводны нацыянальны праект не з'яўляецца завершаным, а беларускі тым больш, улічваючы, што ў актыўную фазу ён увайшоў каля двух дзясяткаў гадоў таму. Зразумела, што дзяржава імкнецца ўтрымаць за сабой манапольныя правы на яго правядзенне. Манаполія на сімволіку — частка агульнай манаполіі. Адсюль турэмны тэрмін Сяргея Каваленкі. Адзначу, што расколатае беларускае грамадства ацэньвае «віцебскага Лявона» неадназначна. Звернемся да чэрвеньскага апытання НІСЭПД: «ён мне абыякавы» — 32%, «ён чалавек, які пакутуе за свае перакананні» — 31%, «ён вар'ят» — 12%, «ён блазан, клоўн» — 10%, «ён нацыянальны герой» — 5%.

Ваенныя парады займаюць далёка не апошняе месца ў сімвалічным шэрагу, выбудаваным дзяржавай. Адпаведнай «сацыялогіяй» я не валодаю, але ўпэўнены, што яна будзе такой жа неадназначнай, як і ў выпадку з Сяргеем Каваленкам. Асабіста мне ў парадных шэрагах танкаў і БМП для поўнай «карцінкі» сёлета не хапіла аўтазакаў беларускай зборкі. Выдатныя, між іншым, машыны. Ёмістыя, эканамічныя. Не, нездарма на іх распрацоўку і вытворчасць былі выдаткаваны грошы падаткаплатнікаў.

**НА ВАШ ПОГЛЯД, НА КАГО НАЙПЕРШ АБАПІРАЕЦЦА ПРЭЗІДЭНТ ЛУКАШЭНКА?, % (МАГЧЫМЫ БОЛЬШ ЗА АДЗІН АДКАЗ)**

| Варыянт адказу | 08'06 | 06'12 | +/- |
|---|---|---|---|
| На вайскоўцаў, МУС, КДБ | 49 | 57 | 8 |
| На прэзідэнцкую «вертыкаль» | 37 | 45 | 8 |
| На пенсіянераў | 41 | 40 | -1 |
| На дзяржаўных чыноўнікаў | 21 | 33 | 12 |
| На вяскоўцаў | 30 | 24 | -6 |
| На простых людзей | 34 | 18 | -16 |
| На дырэктараў буйных прадпрыемстваў | 14 | 14 | - |
| На бізнэсоўцаў | 5 | 6 | 1 |
| На спецыялістаў | 10 | 5 | -5 |
| На культурную і навуковую эліту | 8 | 4 | -4 |

## Выклік і адказ

Можна спрачацца пра месца спецтэхнікі ў парадных шэрагах. Безумоўна, ёсць свая рацыя ў тых, хто думае, што яны павінны адкрываць парад. Але і фінальны акорд любога публічнага дзейства павінен гучаць магутна і эфектна. Падмацую сказанае аўтарытэтам нямецкага сацыяльнага мысляра Юргена Хабермаса: «Суверэнная толькі такая дзяржава, якая можа ўсярэдзіне сябе падтрымліваць спакой і парадак, а па-за межамі de facto абараняць сваю тэрыторыю».

Абарона межаў сёння не такая актуальная. Чаго не скажаш пра падтрыманне спакою і парадку ў дзяржаве. Перачытайце любы выступ «адзінага палітыка» (АП) за апошні год. Толькі ў Пасланні–2012 слова «стабільнасць» згадваецца чортаў тузін разоў. Як тут без спецтэхнікі!

Але любая тэхніка без чалавека — гэта металалом, не больш за тое. І хоць грамадскую думку не варта ўспрымаць як ісціну ў апошняй інстанцыі, але я б не рэкамендаваў і цалкам яе ігнараваць.

Прыведзеную ніжэй табліцу, запазычаную на сайце НІСЭПД, мы разгледзім як своеасаблівы сімвалічны шэраг, дакладней, два шэрагі, падзеленыя часавым прамежкам у шэсць гадоў.

Яшчэ Макс Вебер, аўтар папулярнага сярод палітолагаў тэрміна «харызма», адзначаў, што час харызматычнай падтрымкі палітычнага лідара нядоўгі — два-тры гады. А далей неабходна здзяйсняць новыя цуды або ад падтрымкі харызматычнай пераходзіць да падтрымкі рацыянальнай.

Беларускі выпадак у гэтым сэнсе — не выключэнне. Палітычнае даўгалецце АП — прамы вынік росту прыбыткаў насельніцтва на працягу трох тэрмінаў яго знаходжання на пасадзе кіраўніка дзяржавы. Але вось падчас чацвёртага тэрміна пачаліся праблемы. Летась яны сталі бачныя няўзброеным вокам.

Ёсць выклік. Ёсць адказ. Дэфекты эканомікі было вырашана кампенсаваць аўтазакамі і ўзмацненнем адміністрацыйнага кантролю. Тут самы час спаслацца на аўтарытэтнае меркаванне АП: *«Народ? Народ никогда не обманешь. Он, может, иной раз и смолчит, но правду все равно видит»*. Вось гэта ўласцівасць беларускага народа «бачыць праўду» нават ва ўмовах масіраванай апрацоўкі з боку дзяржаўных СМІ і зафіксавана ў трэцяй калонцы табліцы.

У плюсах апынуліся чыноўнікі, сілавікі і «вертыкальнікі». Больш за ўсіх страцілі простыя людзі і жыхары сяла. Пенсіянеры сваё месца сярод апірышч улады захавалі. Ці надоўга? Пытанне адкрытае.

## Каму ад гэтага горш?

У незалежных эканамістаў ёсць салідны спіс прэтэнзій да ўрада і Нацбанку. І тое яны робяць не так, і гэта. Дзе варта адпусціць — заціскаюць, дзе варта заціснуць — усё ніяк не могуць на гэта рашыцца. У выніку мы маем тое, што маем. Але паглядзім на, здавалася б, выключна эканамічныя праблемы з вышыні азбукавых паліталагічных ісцін.

З дапамогай ужо знаёмага нам Юргена Хабермаса паспрабуем зразумець, што сучасная дзяржава — гэта адміністрацыйная і падатковая дзяржава. Гэта азначае, што яна галоўным чынам абмяжоўваецца кіраўнічымі задачамі. Вытворчыя ж задачы яна дазваляе вырашаць адмежаванай ад дзяржавы рынкавай гаспадарцы. Не, дзяржава не сыходзіць з эканомікі. Яна не здымае з сябе адказнасць за «ўсеагульныя ўмовы вытворчасці», г. зн. прававое забеспячэнне капіталістычнага таваразвароту. Істотная роля дзяржавы і ў развіцці інфраструктуры.

Але якой бы сілай ні выхвалялася дзяржава (рэальнай ці ўяўнай), яна не можа эфектыўна кантраляваць рынкі, якія падпарадкоўваюцца ўласнай логіцы. Узгадаем марнасць мінулагодніх спроб усталяваць валютны курс беларускага рубля адміністрацыйнымі метадамі. Але там, дзе няма рынка, — няма і прыбытку.

Суб'ектам, адказным за атрыманне прыбытку, з'яўляецца прадпрымальнік (бізнэсовец). На нашай сімвалічнай шкале народ, «які маўчыць, але праўду бачыць», адвёў яму месца ў самым нізе. Побач з бізнэсоўцам у межах статыстычнай памылкі размясціліся спецыяліст, прадстаўнік культурнай і навуковай эліты.

Улада на гэту тройцу не абапіраецца. І тройца, адпаведна, не абапіраецца на ўладу. Каму ад гэтага горш? Нам усім. Нацыянальны бізнэс, пазбаўлены дзяржаўнай падтрымкі, ужо ў сілу гэтага факту не здольны канкураваць як на знешнім, так і на ўнутраным рынку.

## Два ў адным

Даўжыню ўдава можна вымяраць у папугаях, а можна і ў малпах. А ў чым вымяраць сілу дзяржавы? У адноснай колькасці спецыялістаў, якія абслугоўваюць аўтазакі, на 100 тысяч насельніцтва, ці ў абсалютнай колькасці саміх аўтазакаў?

Беларуская дзяржава, у адпаведнасці з вядомым рэкламным прынцыпам — два ў адным, — з'яўляецца аднachасова сацыяльна арыентаванай і паліцэйскай. Гэты факт мне ўжо неаднаразова даводзілася адзначаць у папярэдніх «Азбуках палітологіі». Аднак любы паліталагічны тэрмін неадназначны. Так, на думку Уладзіміра Пастухова, паліцэйская дзяржава ёсць самаўпраўнасць, узведзеная ў закон. Аднак гэта не наш выпадак. Мы маем справу з самаўпраўнасцю пад прыкрыццём закона.

Не буду спрачацца з мэтрам расійскай паліталогіі, але праўда, як мне здаецца, ляжыць дзесьці пасярэдзіне. Родная дзяржава ў залежнасці ад кантэксту здольная змяняць алгарытм сваіх дзеянняў. Узгадаем гісторыю з адбіраннем без тлумачэння прычын пашпарту ў дырэктара BISS Аляксея Пікуліка. Як варта кваліфікаваць гэту гісторыю? Мяркую, гэта самаўпраўнасць, узведзеная ў закон. А вось гісторыя адміністрацыйнага арышту ўсё таго ж Аляксея Пікуліка на падставе вердыкту суда Цэнтральнага раёна горада Мінска — гэта ўжо самаўпраўнасць пад прыкрыццём закона.

Пяройдзем ад фактаў да абагульнення. Што родніць два тыпы самаўпраўнасці? Як першы, так і другі — прамое следства адсутнасці кантролю за дзяржавай з боку грамадства. Такое вось сярэдняввечча. Яно не робіць гонару ні дзяржаве, ні грамадству. А тое, што мая высноа не ўзята са столі і не высмактана з пальца, пацвярджае наступнае выказванне АП: *«Я в состоянии как глава государства по закону и Конституции сам контролировать силовые ведомства, в том числе и КГБ. Так будет всегда. Я не отдал КГБ под контроль некого гражданского общества, как сегодня принято красиво говорить в других странах. Контроль гражданского общества — это развал силовых структур. Вы сами это видите и прекрасно это знаете. Я вам открыто об этом сказал еще в 1994 году»*.

Памятаеце, калі і з якой нагоды гэта было сказана?

ЛЁС

# АСЛЕПЛЫМ ВОКАМ НА ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ ТЭРАКТУ

Алена БАРЭЛЬ

**Пацярпелая падчас леташняга тэракта ў мінскім метро Інэса Крутая апынулася ў цяжкай сітуацыі: дзяржава пакінула яе сам-насам з хваробамі, аперацыямі і іншымі наступствамі трагедыі.**

## Страчвае прытомнасць з-за аскепкаў

Яна ўпарта адмаўлялася ад сустрэчы, але пасля маіх настойлівых перакананняў нарэшце пагадзілася.

«Толькі я не змагу прыняць вас у кватэры, бо там — бязладзіца», — збянтэжана апраўдвалася па тэлефоне дзяўчына. Маці Інэсы, на пенсію па інваліднасці якой яны зараз жывуць, хворая на рак грудзей у трэцяй стадыі. Адзіны, хто прыбіраўся ў хаце, — бацька Інэсы, Аляксандр Круты, знаходзіцца на прымусовым лекаванні ў псіхдыспансэры ў Навінках з-за актыўнага ўдзелу ў справе па выбуху і спробаў пошуку сапраўдных вінаватых у тэракце.

Яна выйшла да мяне з пад'езда, абапіраючыя на чорную мыліцу — бледная, маленькая, хударлявая, падвалакаючы нагу, аслеплая на адно вока і ўся нашпігаваная аскепкамі жалеза пасля выбуху. Больш за сорак аскепкаў з яе craсталі лекары, нешта выйшла само, але пакінутыя застануцца са сваёй гаспадыняй назаўсёды — хірургічнае ўмяшанне, па словах медыкаў, толькі моцна пашкодзіць здароў'ю Інэсы. Праз яе жывот цягнецца жудасны шнар, россып драбнейшых «упрыгожваюць» дзявочае цела, грошы на «пластыку» — недазвольная раскоша.

Мая суразмоўца павольна пакрочыла да лаўкі не ў цяню, а пад сонцам, бо на вуліцу выбіраецца зрэдку, раз на месяц.

«Прытомнасць магу страціць, — патлумачыла Інэса, ужо седзячы на лаўцы. — І мыліца — больш не з-за калена, а каб не ўпасці, калі галава закруціцца. Мне ж так і не зрабілі МРТ (магнітна-рэзананснаю тамаграфію) галаўнога мозгу з-за рызыкі жалезных аскепкаў для працы медтэхнікі. Нейкі сасуд у мозгу, напэўна, ушчамляецца ці пашкоджаны, таму і страчваю прытомнасць. Апошні раз наўпрост на лесвіцы ўпала, добра яшчэ, што на нізкіх прыступках».

## На допытах крычалі ў вушы з парванымі перапонкамі

Апрача таго, адзін з аскепкаў у галаве пачаў варушыцца і пашкодзіў крышталік левага вока. Спачатку Інэса не заўважала, што з вокам нешта не тое. Тым больш, што адразу пасля тэракту кантужанай дзяўчыне рабілі аперацыю на парваных выбухам барабанных перапонках і лекавалі нагу.

Праз некалькі месяцаў пасля выбуху крышталік вока памутнеў і стаў шэрым — катаракта. Інэса аслепла. Дарэчы, барабанныя перапонкі таксама цалкам не аднавілі сваю функцыю: яна чуе на адно вуха, бо ў першую ж ноч пасля аперацыі яе паднялі з ложку і пацягнулі на допыт па справе аб выбуху.

«Міліцыянт ці кадэбіст — нават не ведаю дакладна, хто, — гучна крычаў мне ў вушы свае пытанні, бо я, зразумела, не магла добра чуць, і трымаў мяне ноччу ў кабінеце па некалькі гадзін запар, шукаў вінаватых сярод пацярпелых, — удакладніла Інэса. — А пасля аперацыі на перапонках трэба некалькі дзён знаходзіцца ў абсалютнай цішы. Перасаджаная тканіна не прыжылася як след, з'явілася патаўшчэнне — вось і вынік».

## Крышталік ад недзяржаўнай клінікі

Але галоўнае, што турбавала Інэсу, — аслеплае вока. Яна марыла вярнуць страчаны зрок. У трыццаць тры гады жыццё, здаецца, толькі пачынаецца.

Аперацыя і англійскі крышталік каштуе ў афтальмалагічнай клініцы «Новы зрок», куды звярнулася Інэса па дапамогу, каля 1500 долараў. У дзяржаўнай жа клініцы, па словах Крутой, аперацыя магла б адбыцца з-за чаргі толькі ўвосень, і таксама за немалыя грошы. Акрамя таго, там ёй прапанавалі монафакальны крышталік, які ставіцца выключна ў пары з другім — на два вокі.

«Навошта мне апераваць і здаровае вока, калі патрэбна толькі хворае? — спытала Інэса. — А ў недзяржаўнай клініцы пайшлі насустрач і нават замовілі ў Англіі крышталік за свой кошт, каб не выпусціць час і даць мне шанец на выратаванне зроку».

Зараз дзяўчына шукае сродкі для аплаты паслуг клінікі і крышталіка, якія яна павінна аддаць пасля аперацыі.

## Ахвяра «побытавай траўмы»

А дзе ж тая грашовая дапамога ахвярам тэракту ў мінскім метро, якую збіралі ў красавіку 2011 года ўсёй краінай? Ахвяраванні на дабрачынныя рахункі, адчыненыя Мінгарвыканкамам для сем'яў 15 загінулых і 315 пацярпелых ад выбуху на станцыі метро «Кастрычніцкая», пералічылі больш за 1500 арганізацый і фізічных асоб. Як паведаміла прэс-служба Мінгарвыканкама, на рахункі ўстановы паступіла 5 мільярдаў 270 мільёнаў рублёў, 1174 еўра, 10 485 долараў і 452 900 расійскіх рублёў. Акрамя таго, 156 мільёнаў рублёў і валютныя паступленні ўтварылі рэзервовы фонд для набыцця лекаў і лячэння пацярпелых. Нескарыстаныя сродкі рэзерву на працягу 2012 года Мінгарвыканкам абяцаў накіраваць пацярпелым, якія па медыцынскіх паказаннях будуць у найвялікшай ступені мець патрэбу ў дадатковай рэабілітацыі.

З гэтых грошай, асеўшых на рахунках Мінгарвыканкаму, Інэсе Крутой прапанавалі мільён рублёў з хвосцікам. На ўсе абследаванні, аперацыі, лекі, рэабілітацыю і новае жыццё з інваліднасцю і без працы («Белтэлекам» звольніў свайго аператара, нягледзячы на тое, што ў той трагічны дзень Крутая, па яе словах, ехала ў метро якраз на экзамен па жаданню працадаўцы).

«Я павінна была падпісацца пад тым, што быццам пацярпела не ад тэракту, а ад побытавай траўмы. Згодна нашаму заканадаўству, як раптам высветлілася, не мусіць існаваць пацярпелыя ад тэрактаў. Канешне, я не падпісалася пад ніякай побытавай траўмай. Таму не атрымала нават гэтых мізэрных грошай», — распавяла Інэса.

## Праўда замест помсты

Яна была амаль адзіным карміцелем сям'і Крутых: бацька з-за апазіцыйных поглядаў не меў сталай працы, а маці — інвалід II групы, акрамя запушчанай формы рака пакутуе на дыябет.

Пра хворую маці я даведалася выпадкова, Інэса не абвыкла скардзіцца. Яна, як і яе бацька, барацьбіт па жыцці. Каб дазнацца праўду, Аляксандр Круты пераадолеў бюракратычныя перашкоды, атрымаў дазвол на доступ да матэрыялаў справы Канавалава і Кавалёва, знайшоў там нестасоўкі фактаў і адсутнасць доказаў вінаватасці хлопцаў. Па яго словах, іх увогуле не было тады ў метро. І гэта бацька пацярпелай ад рук тэрарыстаў дачкі, які, у сутнасці, першым павінны быў патрабаваць неадкладнага пакарання абвінавачаных! Замест сляпой помсты ён абраў праўду. Узнагарода — «псіхушка».

Як мы ўжо пісалі, 22 верасня 2011 года суддзя Аляксандр Федарцоў часткова зачытаў пастанову пра затрыманне Крутога. У ім сказана, што Круты «17 жніўня, знаходзячыся ў кабінеце адной з медыцынскіх установаў Мінска, наўмысна здзейсніў хуліганскія дзеянні з адмысловым цынізмам і грэбаваннем да нормаў маралі». Гэта выявілася ў тым, што ён выліў змесціва двух слоікаў — вадкасць з пахам мачы — на галоўнага лекара. Па накіраванню пракурора Круты быў адпраўлены ў РНПЦ псіхічнага здароўя. Экспертыза прызнала яго вар'ятам.

6 снежня суд Маскоўскага раёна пастанавіў дастасаваць да Аляксандра Крутога прымусовыя меры бяспекі і лекавання. Пасля РНПЦ ён знаходзіўся ў жодзінскай турме, затым быў пераведзены ў ШЫЗА №1, а потым у псіхдыспансер у Навінках.

Што далей чакае праўдашукальніка? Хочацца спадзявацца, што не лёс Рэндла МакМёрфі з рамана «Пралятаючы над гняздом зязюлі».

Інэса паведаміла, што праз паўгады бацька мусіць прайсці медыцынскае пераасведчанне, вынікі якога цяжка прадказаць.

## Гісторыя яе хваробы трапіла ў КДБ?

Я патэлефанавала Аляксандру Крутому ў псіхдыспансер, каб даведацца пра яго меркаванне наконт таго, чаму дзяржаўная медыцына бясплатна не лекуе яго дачку як ахвяру тэракта.

«У Іны былі сфальсіфікаваныя медыцынскія паперы, гісторыя яе хваробы трапіла ў КДБ, — распавядае ён. — Пра гэта нам паведаміла галоўны лекар 32-й паліклінікі Валянціна Чупік. 22 чэрвеня мінулага года ў паліклініцы былі праведзены дзве камісіі без прысутнасці Іны».

Ён упэўнены, што медыкі дагэтуль не правялі поўнай дыягнастыкі галаўнога мозгу Інэсы, няма лекавання, таму яе здароў'е імкліва пагаршаецца. Стаўленне ўладаў да яго дачкі і іншых ахвяраў тэракту Аляксандр называе генацыдам і злачынствам супраць бяспекі чалавека.

Грамадская актывістка Ганна Шапуцька, якая дапамагае Інэсе, таксама ўпэўненая, што Іна пакутуе менавіта ад наступстваў аскепкавага ранення.

«У галаве дзесьці сядзіць аскепачак, і куды ён там і ў які момант укараніцца, аднаму Богу вядома, — кажа Ганна. — А МРТ, як сказалі лекары, можна рабіць толькі пасля аперацыі на воку. Відаць, што ў Інэсы, хутчэй за ўсё, праблемы з кровазваротам — яна млявая, энергетычна нулявая, ледзь паактыўнічае, а потым ляжыць пластом некалькі дзён. Яшчэ і маці хворая вымотвае. Сям'я проста гіне, а дзяржава ні хворую маці не можа апекаваць, ні Інэсу».

*Падчас напісання артыкула добрыя людзі ахвяравалі Інэсе грошы на аперацыю. Той, хто здольны дапамагчы дзяўчыне грашыма на рэабілітацыю і лекі, можа зрабіць гэта паштовым пераводам па адрасе:*

*220116, г. Мінск, вул. Голубева, д. 20, кв. 46, Крутой Інэсе Аляксандраўне.*

*Інэса Крутая шчыра дзякуе ўсім сябрам і тым незнаёмым людзям, якія аднекуль даведаліся пра яе становішча і дапамаглі.*



Фота аўтара

Інэса КРУТАЯ: «Год таму мне падавалася: пекла — гэта тое, што я перажыла ў метро. Я памылялася. Пекла для мяне тады толькі пачыналася...»

▸ БЕЛАРУСЬ — ЕС

# ДЫЯЛОГ НЕ Ў ІНТАРЭСАХ МІНСКА

Вольга ХВОІН

**Афіцыйны Мінск настойвае, каб праграмы супрацоўніцтва Еўрасаюза з Беларуссю распрацоўваліся і ўзгадняліся ў абавязковым парадку двума бакамі. Размова ідзе пра праграмы новага праекту «Дыялог для мадэрнізацыі».**



Пасол Беларусі ў Бельгіі, пастаянны прадстаўнік пры Еўрасаюзе Андрэй Еўдачэнка нядаўна заявіў, што Беларусь будзе працаваць толькі ў межах тых сумесных праграм з Еўрасаюзам, якія распрацоўваюцца і ўзгадняюцца з беларускім бокам. «Гэты дыялог — чыста праграма Еўрасаюза, як і ўсе астатнія праграмы і праекты, якія ён распрацоўвае апошнім часам у дачыненні да краін «Усходняга партнёрства». Еўрасаюз адышоў ад узгаднення з намі якіх-небудзь параметраў дакументаў, што рыхтуюцца ў дачыненні да гэтай групы краін», — пракаментаваў Еўдачэнка для БелаПАН магчымы ўдзел афіцыйнага Мінска ў рэалізацыі праекта «Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі Беларусі».

«Беларускі бок не быў запрошаны да распрацоўкі праектаў, а дзяржаўныя органы ўключаныя ў праграму па рэшткавым прынцыпе, — патлумачыў дыпламат. — Мы ўжо не раз гаварылі, што мы на такое супрацоўніцтва не пойдзем. Беларусь будзе працаваць толькі ў межах тых сумесных праграм, якія распрацоўваюцца і ўзгадняюцца сумесна».

Афіцыйная ж прапаганда тым часам старанна шчыруе на ніве геапалітычнай арыентацыі беларусаў. Чэрвеньскае апытанне НІСЭПД паказала, што скарачаецца колькасць прыхільнікаў інтэграцыі з Еўропай. У фаварыты выходзіць Расія. Калі ў чэрвені мінулага года колькасць тых, хто гатовы на гіпатэтычным рэферэндуме галасаваць за ўступленне Беларусі ў ЕС, складала 45,1% (супраць 32,4%), то сёння — 39,3% (супраць 38,2%). У чэрвені мінулага года за аб'яднанне Беларусі з Расіяй былі гатовы галасаваць 31,4% (супраць 47,8%), сёння колькасць вырасла да 34% (супраць 44,3%). Пры неабходнасці выбару паміж аб'яднаннем з Расіяй і ўступленнем у ЕС сёння 43,6% выказваюцца за першы варыянт, а 39,8% — за другі.

Аналітыкі інстытута адзначаюць, што галоўная прычына такога трэнду заключаецца ў тым, што нават далёкія ад палітыкі людзі ведаюць, дзякуючы чыёй дапамозе атрымалася стабілізаваць эканамічную сітуацыю ў Беларусі.

Разам з тым, новы праект для Беларусі з'явіўся гэтай вясной як чарговая спроба Еўропы знайсці падыходы да нашай краіны і ўцягнуць яе еўрапейскія працэсы.

«Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі» — гэта дыялог з прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці і апазіцыі аб тым, як магла б выглядаць сучасная Беларусь пры правядзенні неабходных рэформ, і аб магчымай падтрымцы Еўрасаюза, патлумачыла Мая Качыянчыч, прэс-сакратар вярхоўнага прадстаўніка ЕС па знешняй палітыцы і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан. Яна падкрэсліла: «Мы ясна далі зразумець беларускім уладам, што віталі б удзел экспертаў ад урада па розных тэматычных праблемах».

Качыянчыч таксама адзначыла, што ЕС неаднаразова заяўляў пра сваю прыхільнасць палітыцы крытычнага абавязацельства ў дачыненні да Беларусі, у тым ліку праз працяг тэхнічных дыялогаў і супрацоўніцтва з уладамі ў межах ініцыятывы «Усходняе партнёрства».

Аналагічную пазіцыю агучвала і пасол Вялікабрытаніі Розмары Томас у інтэрв'ю БелаПАН у сувязі з заканчэннем сваёй дыпламатычнай місіі ў Беларусі. «Абодва бакі перажываюць расчараванне з нагоды цяперашняй сітуацыі, якая знаходзіцца ў мёртвай кропцы. Але ЕС прапаноўвае сяброўства і супрацоўніцтва, і гэта застаецца нязменным», — падкрэсліла пасол.

Вынікі згаданага вышэй чэрвеньскага нацыянальнага апытання НІСЭПД паказваюць, што ў Беларусі расце колькасць прыхільнікаў переменаў. За год іх колькасць павялічылася на 16,2% і цяпер агулам складае 77,3%. А колькасць прыхільнікаў захавання ў краіне стабільнасці скарацілася з чэрвеня 2011 года ўдвая, і цяпер гэты паказчык — 15,1%.

Атрымліваецца, цяпер беларусы ў значнай ступені саспелі да пераменаў. Толькі пакуль няма асэнсавання, што рэформы мусяць быць найперш на палітычным узроўні. У такім выпадку яны пацягнуць за сабой змены ў большасці сферах. Еўрапейскія праекты ў канчатковым выніку акурат гэта і прадугледжваюць. Інтэграцыя з Расіяй, наадварот, дазваляе захаваць на пэўны прамежак часу існуючы лад. Таму прэтэнзіі, агучаныя Андрэем Еўдачэнкам, можна было патлумачыць як катэгарычны супраціў праграме дыялогу, якая прадугледжвае не захаванне дзейснай лініі ўлады, а рэфармаванне дзяржаўнай сістэмы.

▸ ВЫБАРЫ

# ЗЯЛЁНЫЯ СПАДЗЯЮЦЦА НАБРАЦЬ ВАГУ

Вольга ХВОІН

**Беларуская партыя «Зялёныя» (БПЗ) будзе браць удзел у парламенцкіх выбарах да фінішнай прамой. На думку кіраўніцтва партыі, ігнараванне палітычных кампаній штурхае партыю на гады назад.**



Дзмітрый Кучук

Намеснік старшыні БПЗ Дзмітрый Кучук паведаміў, што рашэнне пра ўдзел у выбарах было прынята цэнтральнай радай партыі пасля абмеркавання некалькіх стратэгій: паўнавартасны ўдзел у выбарах, удзел у выбарах са здыманнем кандыдатаў перад галасаваннем, удзел толькі ў адной акрузе — акрузе №59, у раёне будаўніцтва АЭС у Астраўцы, і байкот выбараў. Як прымалася рашэнне і чаму партыя ідзе на такі выбар бы адчайны крок у святле палітычнай сітуацыі і апошняй электаральнай кампаніі, распавядае намеснік старшыні партыі Дзмітрый Кучук.

— Наша рашэнне варта разглядаць з пазіцыі самога кандыдата і партыйнага будаўніцтва. Для зарэгістраванай партыі няўдзел у выбарах, калі зарэгістраваць палітычную структуру амаль нерэальна, ёсць спосабам не выпасці з унутрыпартыйнага пулу і данесці сваю пазіцыю да выбарца. Нам важна, каб партыя адбылася. А няўдзел у электаральных кампаніях адкідае на гады назад. Раней мы не ўдзельнічалі ў выбарах і гублялі сваіх патэнцыйных прыхільнікаў.

Хаця ёсць не вельмі вясёлы досвед нашых калег — нямецкай партыі зялёных. Яны распавядалі, што напрыканцы 1980-х, калі ў краіне былі праблемы са свабодамі, партыя пайшла на выбары і многа згубіла. Бо ім потым было складана данесці да людзей, што яны не праўладныя, што сапраўды незалежныя. Мы ацанілі ўсе перавагі і мінусы нашай сітуацыі і прынялі такое рашэнне калегіяльна. Нам важна працаваць не ў кагорце апазіцыйных партый, а працаваць менавіта з народнымі масамі, з нашымі выбарцамі. Мы хочам быць скіраванымі не толькі на апазіцыю. Гэта барацьба за галасы незаангажаваных людзей. Удзел у выбарах дазваляе набраць палітычную вагу. Паміж выбарамі гэта больш складана рабіць. А так мы паказваем, што ёсць альтэрнатыва.

З пункту гледзішча кандыдатаў, сітуацыя выглядае так: я сам удзельнічаў у некалькіх выбарах, і гэты досвед карысны для любога палітыка, ён дазваляе многаму навучыцца, зразумець. Так, мы асэнсоўваем, што грамадства цяпер у нейкім спячым стане, і ўсе добра ведаюць, як ідзе падлік галасоў. Але трэба разумець, што краіне патрэбныя перамены. Нічога не рабіць — гэта не выхад. Вада камень точыць. Каб рухацца наперад, набіраць балы, каб сітуацыя змянілася, трэба рабіць нейкія крокі. У нас у партыі сярэдні ўзрост людзей, якія прымаюць рашэнні, 35–38 гадоў. Я ў сваім жыцці не бачыў іншага прэзідэнта, апроч Лукашэнкі. Цяпер маладыя людзі ўвогуле ў безвыходнай сітуацыі, бачаць абыякавасць, што няма і не прадбачыцца пераменаў. Гэта прыгнятае. Таму патрэбны нейкі прарыў, стрэсавасць, каб змяніўся менталітэт людзей.

***— Чаму вы не падтрымалі ідэю байкоту?***

— Байкот вельмі складана правесці. Мы першапачаткова нацэльваліся на пазітыў, на ўдзел. Але наша рашэнне ў выніку вызначылася перавагай аднаго голасу. Галоўным аргументам было тое, што кампанія байкоту не ладзіцца, яна не мае эфектыўнай рэальнай стратэгіі і тактыкі.

***— Беларуская партыя зялёных прымала ўдзел у апошняй электаральнай кампаніі — выбарах прэзідэнта Беларусі. Якія бонусы вы атрымалі?***

— Ведаеце, калі мы знялі свайго кандыдата перад самым галасаваннем, то многія журналісты пазітыўна ацанілі наша рашэнне, бо мы не сталі гуляць у брудныя гульні. Нас назвалі самай праўдзівай партыяй. Але быў іншы, не вельмі пазітыўны момант. Калі мы знялі свайго кандыдата Глушакова, на нас літаральна на другі дзень усе забыліся, хаця да гэтага да Глушакова па пяць-сем разоў на дзень звярталіся па каментары. Кампанія развівалася далей без нас.

Пасля выбараў было пасяджэнне ў Нацыянальнай акадэміі навук, там агучвалі маніторынг наконт рэйтынгаў партый, іх пазнавальнасці. І мы апынуліся чацвёртай партыяй па папулярнасці. Толькі гучала так: назва вядомая, а вось хто мы такія, ніхто не ведае. Зялёная партыя нясе пазітыў для насельніцтва, і гэта істотна. Да прэзідэнцкай кампаніі мы такой актыўнай дзейнасцю ў часе палітычных кампаній не займаліся, хаця на пачатку 1990-х былі вельмі актыўныя, нашы прадстаўнікі былі ў Вярхоўным савеце, у абласных структурах.

***— Што ў такім разе перашкаджае рабіць сваю партыйную працу паміж выбарамі?***

— Насамрэч паміж палітычнымі кампаніямі партыі жывуць сваім нармальным жыццём, працуюць з насельніцтвам. Гэта штамп, што ў партый няма жыцця. Калі вы будзеце маніторыць навіны, то пабачыце і заявы, і ўдзел у кампаніях. Актыўнасць ёсць заўсёды. Але ў часе паліткампаній ёсць усплёск, партыі нават канкуруюць паміж сабой, змагаюцца за галасы выбарцаў.

***— Колькі кандыдатаў на парламенцкіх выбарах будзе ад Беларускай партыі «Зялёныя»?***

— Патэнцыйных кандыдатаў у нас будзе ад 6 да 10. Нашы сябры плануюць балатавацца ў Мінску, Горках, Салігорскай, Астравецкай, Гомельскай акругах. Я іду па Заходняй выбарчай акрузе Фрунзенскага раёна Мінска.

Шэсць прадстаўнікоў партыі будуць заяўляцца ў выбарчыя камісіі, там, дзе балатуюцца нашы кандыдаты. Для нашых сябраў будзе працэс навучання, каб яны маглі ўдзельнічаць у выбарах у якасці назіральнікаў. Назіральнікамі мы плануем дэлегаваць 20–30 чалавек.

***— Сфармулюйце пасланні, з якімі вы пойдзеце да людзей.***

— Асноўная наша тэза — супраць будаўніцтва АЭС. Мы мяркуем, што гэта няправільнае рашэнне будаваць станцыю, маючы такі сумны досвед. Гэта мы хочам найперш данесці да нашых выбарцаў. Яшчэ будзем распавядаць пра ідэі зялёнай эканомікі. У нас няма старонніх кандыдатаў, так ці інакш нашы людзі дасведчаныя ў галіне экалогіі. І яны будуць распаўсюджваць ідэі сярод людзей.

* * *

Галоўная мэта кампаніі па назіранні за выбарамі «За справядлівыя выбары–2012» — змяніць практыку правядзення «выбараў» і падліку галасоў, прыцягнуць увагу грамадства да праблемы фальсіфікацый і парушэнняў падчас кампаніі.

Плануецца прыцягнуць 1 000 чалавек у якасці кандыдатаў у склад выбарчых камісій і 2 000 назіральнікаў.

Ніхто не мае асаблівых ілюзіяў з нагоды сапраўды свабодных, справядлівых выбараў і сумленнага падліку галасоў. Таксама мала хто верыць, што кандыдаты ад дэмакратычных сіл змогуць выйграць выбары на сваіх акругах і стаць «народнымі абраннікамі».

Беларуская партыя «Зялёныя» падтрымлівае актыўнае назіранне. Гэта яшчэ і магчымасць зразумець і адчуць выбарчы працэс знутры і такім чынам атрымаць каласальны вопыт удзелу ў выбарчай кампаніі і кампаніі па назіранні, у прыватнасці. А таксама будзе магчымасць стварыць дзейсную сістэму назірання для наступных выбарчых кампаній.

Запісацца ў назіральнікі і далучыцца да кампаніі па назіранні за выбарамі «За справядлівыя выбары–2012» можна на сайце http://vybary.org/.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ TV

## 16 ЛІПЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### Беларусь 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Час Саюза.
**11.00** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна). Фільм «Не адыходзіць і не здавацца».
**12.15** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.10** Мультфільм.
**15.15, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Тэлестужка АТН «Аляксандр Ціхановіч: першыя 60».
**16.15** Серыял «Шырокая рака».
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Арэна.
**18.45, 00.10** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.25** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Дзень Саюзнай дзяржавы. Юбілейны канцэрт нацыянальнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраваннем М.Фінберга. «Нам 25! Усё пачынаецца спачатку».
**21.00** Панарама.
**21.50** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Дзённік.
**22.00** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Гала-канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі.
**00.35** Дзень спорту.
**00.45** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць выдатна!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Тэорыя неверагоднасці. «Анамаліі».
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхаілам Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Невыносная жорсткасць».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік». «Беларусы на «Тытаніку». Выратавацца і не вярнуцца».
**19.05** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом узорнага ўтрымання». Шматсерыйны фільм.
**22.15** «Зачыненая школа». Шматсер. фільм.
**23.20** «Марк Шагал. Нерэальная рэчаіснасць».
**00.10** Уладзімір Познер, Іван Ургант у праекце «Іх Італія».
**01.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Цэнтральны рэгіён».
**14.20** «Зорны рынг». Лепшае.
**15.15** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Гульні ў салдацікі». Украіна, 2007 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Пякельная кухня».

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.10** Навіны надвор'я.
**09.40** Драматычны серыял «Вар'яты-4».
**10.45** Бітва экстрасэнсаў.
**11.55** Музычны фільм «Меры Попінс, да спаткання» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**14.30** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія).
**15.40** Меладраматычны серыял «Ціхі цэнтр» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**16.50** Рэгіянальная праграма.
**17.50** Беларуская часіна.
**18.55** Баявік «Вайна Логана. Злучаны гонарам» (ЗША).
**20.40** Пад грыфам «Вядомыя».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Меладраматычны серыял «Ціхі цэнтр» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**22.35** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія).
**23.35** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** Тэлесерыял «Пончык Люся».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весці.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весці.
**14.30** «З новым домам!» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.20** «Мая планета». Краснадарскі край - Курортны раман.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весці.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весці.
**20.30** Тэлесерыял «Шапавалаў».
**22.15** Тэлесерыял «Дарога на выспу Пасхі».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** Алена Якаўлева ў тэлесерыяле «Каменская».
**00.15** Фэст «Славянскі базар-2012».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** «Руская сенсацыі».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суда».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.20** «Судовы дэтэктыў».
**14.25** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Опергрупа-2».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем».
**18.10** Галоўная дарога.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.30** Серыял «Масква. Тры вакзала-3».
**21.20** Прэм'ера. Серыял «Профіль забойцы».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Працяг».

### Eurosport

**09.30** Матаспартовы часопіс.
**09.40** Спартовы шлях.
**09.45** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету сярод юніёраў. Барселона.
**10.45, 14.00** Веласпорт. «Тур дэ Франс». 14-ы этап.
**11.45** Футбол. Чэмпіянат Еўропы сярод гульцоў да 19 гадоў. Жанчыны. Фінал.
**12.45, 23.30** Футбол. Чэмпіянат Еўропы сярод гульцоў да 19 гадоў. Фінал.
**15.00** Live. Веласпорт. «Тур дэ Франс». 15-ы этап.
**18.45** Live. Веласпорт. Тур Польшчы. 7-ы этап.
**20.00** Снукер. Адкрыты чэмпіянат Аўстраліі. Фінал.
**21.45** Вось дык так!!!
**22.00** Пра рэстлінг. Агляд WWE.
**22.30** Пра рэстлінг. Vintage Collection. ЗША.
**01.15** Веласпорт. «Тур дэ Франс». 15-ы этап.

### Белсат

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40** Англійская для дзяцей.
**07.45** Казкі для дзетак.
**07.55** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял.
**08.55** Басанож па свеце.
**09.20** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, рэж. Мішэль Ноль, 2005 г., Францыя: 3 серыя, «Смяротны запавет міру Магатмы Гандзі».
**10.15** Euromax.
**10.40** «Каралева Бона», тэлесерыял.
**11.40** «CIA: таемныя войны», 2008 г., Францыя: фільм 2, «Страчаныя ілюзіі».
**12.35** МакраФон: «Рок-карона–2008»: ч. 1.
**13.35** Кружэлка (музычная праграма).
**14.05** Лета з дэтэктывам: «Арол: крымінальная сага», серыял: 12 серыя.
**15.05** «Далёка ад акна», маст. фільм, рэж. Ян Якуб Кольскі, 2000 г., Польшча.
**17.05** Дак. гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя: 3 серыя, «Смяротны запавет міру Магатмы Гандзі».
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 25 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Басанож па свеце.
**19.35** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Еўропа сёння.
**20.35** Размовы эксперта.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Гісторыя – на вакацыі: «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дак. фільм, 2009 г., Польшча: 3 серыя.
**22.15** Фільматэка майстроў: «Італьянец», маст. фільм, рэж. Андрэй Краўчук, Андрэй Раманаў, 2005 г., Расея.
**00.00** Аб'ектыў.
**00.25** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 13 серыя.
**01.20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 17 ЛІПЕНЯ, АЎТОРАК

### Беларусь 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўная меладрама «Дзяўчынка мая» (Расія-Украіна). 1-я серыя.
**10.05** Арэна.
**10.35** Мультфільмы.
**11.00** Гістарычны серыял «Талаш» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**12.15** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).
**15.15, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** «Здароўе». Ток-шоў.
**16.15** Серыял «Шырокая рака».
**17.20** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 23.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.25** Каробка перадач.
**19.55** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна). Фільм «Руслана».
**21.00** Панарама.
**21.35** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.50** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Дзённік.
**22.00** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Гала-канцэрт майстроў мастацтваў Расіі.
**00.05** Дзень спорту.
**00.15** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Спадчына». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхаілам Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом узорнага ўтрымання». Шматсерыйны фільм.
**22.15** «Зачыненая школа». Шматсер. фільм.
**23.20** «Фатальнае каханне Савы Марозава». Фільм 1-ы.
**00.20** Уладзімір Познер, Іван Ургант у праекце «Іх Італія». Заключная праграма.
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Гульні ў салдацікі». Украіна, 2007 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Дзяўчына з прыгарада». ЗША, 2007 г.
**15.40** «Ваенная таямніца».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** «Старыя-разбойнікі». СССР, 1971 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Забойчая сіла 3». Серыял.
**00.20** «Механічны апельсін».

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Цела чалавека.
**09.35** Драматычны серыял «Вар'яты-4».
**10.40** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**11.35** Школа рамонту.
**12.40** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**13.50** Мультсерыял «Сямейка піратаў».
**14.35** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія).
**15.40** Серыял «Ціхі цэнтр». 2-я серыя.
**16.50** Рэгіянальная праграма.
**17.50** Беларуская часіна.
**18.55** Драма «Зніклая імперыя» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Серыял «Ціхі цэнтр». 2-я серыя.
**22.35** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія).
**23.35** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Пончык Люся».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**11.45** Весці. Дзяжурная частка.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50, 16.50, 19.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новым домам!» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.20** Навіны культуры.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**20.30** «Шапавалаў».
**22.15** «Дарога на выспу Пасхі».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** Тэлесерыял «Каменская».
**00.15** Фэст «Славянскі базар-2012».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.15** Прэм'ера. Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суда».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.20** «Судовы дэтэктыў».
**14.20** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Опергрупа-2».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «У зоне адмысловай рызыкі».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Масква. Тры вакзала-3».
**21.20** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Профіль забойцы».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Працяг».

### Eurosport

**09.30** Фітнэс. Часопіс.
**09.45, 15.30** Веласпорт. «Тур дэ Франс». 15-ы этап.
**11.00, 18.00, 01.30** Снукер. Адкрыты чэмпіянат Аўстраліі. Фінал.
**12.30, 19.15** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету сярод юніёраў. Барселона.
**14.00** Футбол. Чэмпіянат Еўропы сярод гульцоў да 19 гадоў. Фінал.
**17.00** Веласпорт. Тур Польшчы. 7-ы этап.
**20.30** Live. Лёгкая атлетыка. Еўрапейскі турнір. Люцэрнаў.
**22.45** Бокс. Матч за тытул IBF у другой сярэдняй вазе.
**00.00** Аўтаспорт. Сусветная серыя Рэно. Масква. Агляд этапу.
**00.30** Лёгкая атлетыка. Еўрапейскі турнір. Люцэрнаў.

### Белсат

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.45** «CIA: таемныя войны», рэж. Вільям Карэль, 2008 г., Францыя: фільм 2, «Страчаныя ілюзіі».
**08.35** «Час гонару», серыял: 25 серыя.
**09.25** Басанож па свеце.
**09.50** Еўропа сёння.
**10.20** Размовы эксперта.
**10.35, 16.15** Гісторыя – на вакацыі: «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дак. фільм, 2009 г., Польшча: 3 серыя.
**11.25** Фільматэка майстроў: «Італьянец», маст. фільм, рэж. Андрэй Краўчук, Андрэй Раманаў, 2005 г., Расея.
**13.10** Два на два (тэледыскусія).
**13.35** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, рэж. Мішэль Ноль, 2005 г., Францыя: 3 серыя, «Смяротны запавет міру Магатмы Гандзі».
**14.30** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 13 серыя.
**15.25** Басанож па свеце.
**15.50** Еўропа сёння.
**17.05** «CIA: таемныя войны», рэж. Вільям Карэль, 2008 г., Францыя: фільм 2, «Страчаныя ілюзіі».
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 26 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Навігатар.
**19.20** Паляванне на дзівосы.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах.
**20.35** Прыватная калекцыя.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**21.40** Форум (ток-шоў).
**22.25** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Невядомы і блізкі. Каталіцкі касцёл у Беларусі», дак. фільм, рэж. Зоф'я Кунэрт, 2008 г., Польшча.
**23.20** МакраФон: Канцэрт «Іх N.R.M – іх Мроя».
**00.15** Аб'ектыў.
**00.45** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 1 серыя.
**01.30** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 18 ліпеня, серада

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўная меладрама «Дзяўчынка мая» (Расія-Украіна). 2 -я серыя.
**10.00** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Каробка перадач.
**11.00** Гістарычны серыял «Талаш». 2-я серыя.
**12.15** Серыял «Маргоша» (Расія).
**13.10** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна). Фільм «Руслана».
**14.05** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).
**15.15, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Зона камфорту.
**16.00** Тэлефільм АТН «Бабруйскі варыянт» цыкла «Зямля беларуская».
**16.10** Серыял «Шырокая рака».
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне» (Украіна).
**18.15** Зямельнае пытанне.
**18.45, 23.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.25** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Гала-канцэрт майстроў мастацтваў Украіны.
**21.00** Панарама.
**21.35** Адмысловы рэпартаж АТН.
**21.50** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Дзённік.
**22.00** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Бенефіс Ільва Лешчанкі.
**00.05** Дзень спорту.
**00.15** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Спадчына». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом узорнага ўтрымання». Шматсерыйны фільм.
**22.15** «Зачыненая школа». Шматсер. фільм.
**23.20** «Фатальнае каханне Савы Марозава». Фільм 2-і.
**00.20** Андрэй Малахаў у праграме «Дэтэктар хлусні».
**01.10** Начныя навіны.

### С ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** ««Старыя-разбойнікі». СССР, 1971 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Халасцякі». Серыял.
**14.35** «Забойная сіла 3». Серыял.
**15.30** «Гадзіна суда з Паўлам Астахавым».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Старэйшая сястра». СССР, 1966 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Калі ласка, скардзіцеся».
**23.20** «Забойная сіла 4». Серыял.
**00.20** «Дзіўная справа».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Наперад у мінулае.
**09.35** Драматычны серыял «Вар'яты-4».
**10.50** Цела чалавека.
**11.25** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**12.35** Бухта капітанаў.
**13.15** Мультсерыял «Сямейка піратаў».
**14.00** Еш і худней.
**14.35** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія).
**15.40** Серыял «Ціхі цэнтр». 3-я серыя.
**16.50** Рэгіянальная праграма.
**17.50** Беларуская часіна.
**18.55** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. 2-і адборачны раўнд. БАТЭ (Беларусь) - Вардар (Македонія). Прамая трансляцыя.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Серыял «Ціхі цэнтр». 3-я серыя.
**22.40** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія).
**23.40** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** «Адданы сябар».
**08.35** «Галоўнае - паспець».
**10.20** «Ван Гог не вінаваты».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**14.30** «З новым домам!» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.20** «Мая планета». «Уладзімір. Па-за часам».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** «Шапавалаў».
**22.15** «Дарога на выспу Пасхі».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** Алена Якаўлева ў тэлесерыяле «Каменская».
**00.15** Сведкі. «Пра цара, яго доктара і пра сябе. Канстанцін Мельнік-Боткін».

### НТВ

**06.00** Следства вялі..
**06.45** «Таямнічая Расія: Ад Масквы да Камчаткі».
**07.35** Іх норавы.
**08.15** Прэм'ера. Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Развод па-руску».
**11.10** «Да суда».
**12.10** Суд прысяжных.
**13.20** «Судовы дэтэктыў».
**14.20** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Опергрупа-2».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Выратавальнікі.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Масква. Тры вакзала-3».
**21.20** Прэм'ера. Серыял «Профіль забойцы».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Працяг».

### EUROSPORT

**09.30, 00.30** Алімпійскі часопіс.
**10.00, 19.15** Лёгкая атлетыка. Еўрапейскі турнір.
**11.00, 20.30** Разам у Лондан. Алімпійскі часопіс.
**11.15** Веласпорт. «Тур дэ Франс». 15-ы этап.
**12.00** Live. Веласпорт. «Тур дэ Франс». 16-ы этап.
**18.45** Тэніс. Матс Пойнт. Часопіс.
**20.40** Event Discovery. Часопіс.
**20.45, 00.10** Абранае па серадах. Часопіс.
**20.50** Конны спорт. Кубак нацый. Аахен.
**21.50** Навіны коннага спорту.
**21.55** Выбар Алексіі. Часопіс.
**22.00** Гольф. Uspga. John Feer Classic.
**23.00** Гольф. Еўрапейскі тур. Адкрыты чэмпіянат Шатландыі.
**23.30** Гольф клуб. Навіны гольфа.
**23.35** Ветразевы спорт. Krys Ocean Race.
**00.05** Яхт-клуб. Навіны ветразевага спорту.
**00.15** Кірунак - спорт. Часопіс.
**00.20** Бізнэс клас. Часопіс.
**00.25** Спартовы шлях. Часопіс.
**01.00** Веласпорт. «Тур дэ Франс». 16-ы этап.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.40** Форум (ток-шоў).
**08.25** «Час гонару», серыял: 26 серыя.
**09.10** Навігатар.
**09.25** Паляванне на дзівосы.
**09.45** На колах.
**10.15** Прыватная калекцыя.
**10.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**10.50** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Невядомы і блізкі. Каталіцкі касцёл у Беларусі», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**11.45** Форум (ток-шоў).
**12.25** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 1 серыя.
**13.15** Навігатар.
**13.30** Паляванне на дзівосы.
**13.50** На колах.
**14.20** Прыватная калекцыя.
**14.35** МакраФон: Канцэрт «Ix N.R.M – іх Мроя».
**15.30** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Невядомы і блізкі. Каталіцкі касцёл у Беларусі», дак. фільм, рэж. Зоф'я Кунэрт (Zofia Kunert), 2008 г., Польшча.
**16.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**16.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.00** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 7 серыя.
**17.45** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 27 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Чацвёра вушэй у пералеску».
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Аўтастопам праз Еўропу.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Побач з намі.
**21.40** «Кароль-вінароб», серыял: 4 серыя.
**22.30** «Падарожжа па руінах», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**22.50** Аб'ектыў.
**23.15** Лета з дэтэктывам: «Фальшывамантнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 4 серыя.
**00.00** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 19 ліпеня, чацвер

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўнай меладраме «Дзяўчынка мая» (Расія-Украіна). 3 -я серыя.
**10.05** Зямельнае пытанне.
**10.30** Прэм'ера. «Віталь Цвірка. Паэзія пейзажу». Дакументальны фільм.
**11.00** Гістарычны серыял «Талаш».
**12.15** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).
**15.15, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Медычныя таямніцы з доктарам А.Цярэшчанкам.
**16.00** Тэлефільм АТН «Мсціслаўскі шлях» цыкла «Зямля беларуская».
**16.15** Серыял «Шырокая рака».
**17.20** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.10** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.25** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Сяргей Пенкін.
**21.00** Панарама.
**21.35** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.50** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Дзённік.
**22.00** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Урачыстае зачыненне.
**00.35** Дзень спорту.
**00.45** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Спадчына». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхаілам Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Серыял.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом узорнага ўтрымання». Шматсерыйны фільм.
**22.15** «Зачыненая школа». Шматсер. фільм.
**23.20** «Тэорыя неверагоднасці».
**00.10** Андрэй Малахаў у праграме «Дэтэктар хлусні».
**01.00** Начныя навіны.

### С ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.55, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Калі ласка, скардзіцеся».
**08.50** «Старэйшая сястра». СССР, 1966 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Халасцякі». Серыял.
**14.35** «Забойная сіла 4». Серыял.
**15.30** «Гадзіна суда з Паўлам Астахавым».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**17.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 2-і адборачны раўнд. ФК «Нафтан» - ФК «Црвена Звезда». Прамая трансляцыя.
**20.25** «СТБ-спорт».
**20.30** «Глыбіня». ЗША, 2002 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Забойная сіла 4». Серыял.
**00.20** «Яшчэ не вечар».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Еш і худней.
**09.35** «Вар'яты-4» (ЗША).
**10.40** Страсці па культуры.
**11.25** Жансавет.
**12.00** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**13.10** Мультсерыял «Сямейка піратаў».
**14.00** Еш і худней.
**14.35** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія).
**15.40** Меладраматычны серыял «Ціхі цэнтр». 4-я серыя, заключная.
**16.50** Рэгіянальная праграма.
**17.50** Беларуская часіна.
**18.55** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**19.25** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 2-і адборачны раўнд. Шахцёр (Беларусь) - Рыд (Аўстрыя). Прамая трансляцыя.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Телебарометр.
**21.35** Меладраматычны серыял «Ціхі цэнтр». 4-я серыя, заключная.
**22.40** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія).
**23.35** Час футбола.
**00.20** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Пончык Люся».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**11.45** Весці. Дзяжурная частка.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новым домам!» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.20** Навіны культуры.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** «Шапавалаў».
**22.15** «Дарога на выспу Пасхі».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** Алена Якаўлева ў тэлесерыяле «Каменская».
**00.15** Урачыстая цырымонія зачынення Міжнароднага фэсту «Славянскі базар у Віцебску».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.15** Прэм'ера. Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Ахтунг, русіш!».
**11.10** «Да суда».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.20** «Судовы дэтэктыў».
**14.25** Прэм'ера. Серыял «Опергрупа-2».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Цуд-людзі.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Прэм'ера. Серыял «Масква. Тры вакзала-3».
**21.20** Прэм'ера. Серыял «Профіль забойцы».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Працяг».

### EUROSPORT

**09.30** Аўтаспорт. Сусветная серыя Рэно. Масква. Агляд этапу.
**10.00** Коннаспартовы часопіс.
**10.15, 12.45** Веласпорт. «Тур дэ Франс». 16-ы этап.
**11.15** Лёгкая атлетыка. Еўрапейскі турнір.
**12.30** Фітнэс. Часопіс.
**13.45** Веласпорт. «Тур дэ Франс». 17-ы этап.
**18.45** Live. Футбол. Таварыскі матч.
**21.00** Баявыя мастацтвы. Татальны накаўт.
**22.00** Баявыя мастацтвы. Байцоўскі клуб. Тайланд - Галандыя.
**23.55** Бізнэс клас. Часопіс.
**00.00** Веласпорт. «Тур дэ Франс». 17-ы этап.
**01.30** Футбол. Таварыскі матч.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.40** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 7 серыя.
**08.25** Побач з намі.
**08.40** «Час гонару», серыял: 27 серыя.
**09.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.55** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.00** Праект "Будучыня".
**10.25** Аўтастопам праз Еўропу.
**10.50** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**10.55** «Кароль-вінароб», серыял: 4 серыя.
**11.45, 16.30** "Падарожжа па руінах", рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**12.00** «Бульбаны», мультсерыял.
**12.10** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 7 серыя.
**13.00** Побач з намі.
**13.15** Лета з дэтэктывам: «Фальшывамантнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 4 серыя.
**14.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**14.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**14.35** Праект "Будучыня".
**15.05** «Кароль-вінароб», серыял: 4 серыя.
**15.55** Аўтастопам праз Еўропу.
**16.15** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**16.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.05** «Акварыум», серыял: 2 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 28 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** «Тэра постсаветыка. Фэмэн», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx.
**20.35** «Праваслаўныя дзеячы», дак. фільм, рэж. Мікалай Ваўранюк, 2008 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Паляванне на дзівосы.
**21.45** «Дэфект», тэлесерыял: 7 серыя.
**22.40** «Лобатамія», дак. фільм, рэж. Юрый Хашчавацкі, 2010 г., Беларусь.
**00.10** Аб'ектыў.
**00.35** Лета з дэтэктывам: «Фальшывамантнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 5 серыя.
**01.25** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 20 ЛІПЕНЯ, ПЯТНІЦА

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўнай меладраме «Дзяўчынка мая» (Расія-Украіна). 4-я серыя, закл.
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Журналісцкае расследаванне. «Панаехалі?».
**11.00** Гістарычны серыял «Талаш» («Беларусьфільм»). 4-я серыя, заключная.
**12.10** Серыял «Маргоша».
**14.05** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША). Фільм «Берлін».
**16.00** Забаўляльная праграма пра турызм.
**16.30** «Перазагрузка». Моладзевае токшоў.
**17.20** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.10** Зона камфорту.
**18.45, 00.05** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дак. цыкл «Зорнае жыццё». Фільм «Першае каханне: невымоўныя словы».
**21.00** Панарама.
**21.30** Тэлестужка АТН «Незалежнасць. Скрыжаванні».
**22.20** «Славянскі базар у Віцебску-2012». «Начны хіт».
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** «Славянскі базар у Віцебску-2012». «Агонь танца-2012».

### ОНТ

**06.00, 09.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Спадчына». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхаілам Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом узорнага ўтрымання». Шматсерыйны фільм.
**22.15** Прэм'ера. «Рыгор Лепс. Канцэрт у дзень нараджэння».
**23.45** Зачынены паказ. «Падзея».
**02.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** «Глыбіня». ЗША, 2002 г.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Самейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Яшчэ не вечар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Халасцякі». Серыял.
**14.35** «Забойная сіла 4». Серыял.
**15.30** «Гадзіна суда з Паўлам Астахавым».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінщчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Камедыя па пятніцах»: «Адкрыйце, паліцыя! - 2». Францыя, 1989 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.50** «Еўрапейскі покерны тур».
**00.35** Прэм'ера! «Адмысловы праект»: «Кухня. Зваротны бок».

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Час футбола.
**09.50** Драматычны серыял «Вар'яты-4».
**10.55** Еш і худней.
**11.30** Школа рамонту.
**12.45** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**13.50** «Успамінаючы Чарняхоўскага». Дакументальны фільм («Беларусьфільм»).
**14.10** «Прыдатны да нястроевай» («Беларусьфільм»).
**15.50** Мультсерыял «Сямейка піратаў».
**16.35** Жансавет.
**17.10** Беларуская кухня.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Спартовая камедыя «Калі Білі перамагае Бобі» (Канада-ЗША).
**20.45** Пад грыфам «Вядомыя».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.35** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.20** Псіхалагічная драма. (Вялікабрытанія- Канада).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Пончык Люся».
**11.00** Весці.
**11.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**11.45** Весці. Дзяжурная частка.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весці.
**14.30** «З новым домам!» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.20** Навіны культуры.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весці.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весці.
**20.30** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**22.20** «Лясное возера» (2011 г.).
**00.10** Навіны - Беларусь.
**00.20** «Вялікае каханне» (2006 г.).

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.05** Кулінарны паядынак з Аскарам Кучэрам.
**09.00** «Таемны шоў-бізнэс».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** І зноў добра дзень!
**11.10** «Да суда».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.30** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Вочная стаўка.
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Прафесія-рэпарцёр.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.30** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Масква. Тры вакзала-3».
**21.20** Прэм'ера. Серыял «Профіль забойцы».
**23.05** «Ахтунг, русіш!».
**00.00** Анджэліна Джолі у крымінальным дэтэктыве «Яе сэрца».

### EUROSPORT

**09.30** Аўтаспорт. Чэмпіянат свету ў класе «Турынг». Часопіс.
**10.00, 14.30** Веласпорт. «Тур дэ Франс». 17-ы этап.
**11.00** Разам у Лондан. Алімпійскі часопіс.
**11.15, 17.45** Футбол. Таварыскі матч.
**12.00, 13.15** Live. Пляжны футбол. Партугалія.
**15.00** Live. Веласпорт. «Тур дэ Франс». 18-ы этап.
**18.45** Снукер. Адкрыты чэмпіянат Аўстраліі. Фінал.
**20.15** Коннаспартовы часопіс.
**20.30** Наймоцныя людзі планеты. Фінляндыя.
**21.25** Бізнэс клас. Часопіс.
**21.30** Live. Скачкі на лыжах. Летні Гранпры. Вісла.
**23.15** Веласпорт. «Тур дэ Франс». 18-ы этап.
**00.00** Ралі IRC. Румынія. Дзень 1.
**00.30** Тэніс. Матс Пойнт. Часопіс.
**01.00** Live. Тэніс. Турнір WTA. Карлсбад. 1/4 фіналу.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак: «Аблавушак».
**07.40** «Акварыум», серыял: 2 серыя.
**08.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**08.40** «Час гонару», серыял: 28 серыя.
**09.25** «Тэра постсаветыка. Фэмэн», дак. фільм, рэж. Барбара Владарчык, 2010 г., Польшча.
**09.55** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.00** Euromaxx.
**10.30** «Праваслаўныя дзеячы», дак. фільм, рэж. Мікалай Ваўранюк, 2008 г., Польшча.
**10.45** Паляванне на дзівосы.
**11.00** «Дэфект», тэлесерыял: 7 серыя.
**11.55** «Лобатамія», дак. фільм, рэж. Юрый Хашчавацкі, 2010 г., Беларусь.
**13.25** «Акварыум», серыял: 2 серыя.
**14.15** Лета з дэтэктывам: «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял.
**15.05** «Тэра постсаветыка. Фэмэн», дак. фільм, рэж. Барбара Владарчык, 2010 г., Польшча.
**15.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**15.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**16.05** «Праваслаўныя дзеячы», дак. фільм, рэж. Мікалай Ваўранюк, 2008 г., Польшча.
**16.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.40** Паляванне на дзівосы.
**17.00** «Кароль-вінароб», серыял: 4 серыя.
**17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 7 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Беларускія лёсы: «Чырвоны беларус», дак. фільм, Беларусь.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах.
**20.35** «Апантаныя», дак. цыкл.
**20.45** Гарадзенская вандроўкі Станіслава Пачобута.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Гісторыя – на вакацыі: «Распаведу вам пра вайну», дак. фільм, рэж. Сяргей Ісакаў, 2009 г., Беларусь.
**22.15** «Мой Нікіфар», маст. фільм, рэж. Кшыштаф Краўзэ, 2004 г., Польшча.
**23.55** Размовы эксперта.
**00.15** Аб'ектыў.
**00.45** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар, серыял: 5 серыя.
**01.30** Вагон.

## 21 ЛІПЕНЯ, СУБОТА

### БЕЛАРУСЬ 1

**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**09.55** Камедыйны серыял «Зачараваны ўчастак» (Расія).
**10.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША). Фільм «Берлін».
**11.30** Забаўляльная праграма пра турызм.
**12.10** Дэтэктыўны серыял «Жыццё і прыгоды Мішкі Япончыка» (Расія). 5-я і 6-я серыя.
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дэтэктыўны серыял «Жыццё і прыгоды Мішкі Япончыка» (Расія). 7-я і 8-я серыя.
**17.30** Зона Х. Вынікі тыдня.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя "Пяцёрачка".
**19.10** Дэтэктыў «Самы лепшы вечар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.30** Тэлестужка АТН «88-ы. Алімпійскі».
**21.55** «Славянскі базар у Віцебску-2012». «Зоркі « Шансон-ТБ».
**23.35** Дзень спорту.
**23.45** Камедыя «Дзяўчына маіх кашмараў» (ЗША).

### ОНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.10** «З чаго зроблена ежа».
**12.10** «Смешарыкі. ПІН-код».
**12.40** «Будзьце маім мужам».
**14.20** «Джэнтльмены ўдачы».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Кіраванне сном».
**17.20** «Хірамант». Шматсерыйны фільм.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Драма «Яркая зорка».
**23.1** «На цвярозую галаву».

### СТВ

**06.20** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**07.10** «Далёкія сваякі».
**07.35** «Салдаты-14». Серыял.
**09.10** «Я - вандроўца».
**09.35** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчукі».
**11.00** «Адкрыйце, паліцыя! - 2». Францыя, 1989 г.
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.35** «Залатая калекцыя»: «Гаспадар тайгі». СССР, 1968 г.
**15.10** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Жанчыны ХХ стагоддзі» з Элеанорай Езерскай.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Гучная справа».
**17.50** «Кіно»: «Сукенка ад куцюр». Расія - Украіна, 2007 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «Сусветны блокбастар»: «1408». ЗША.
**22.10** «Зорны рынг». Лепшае.
**23.10** «Пасажыр без багажу». Серыял.

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.45** Дабравест.
**08.10** Свет вашаму дому.
**08.20** Спартовая камедыя «Калі Білі перамагае Бобі» (Канада-ЗША).
**10.05** Пра мастацтва.
**10.35** Тэлебарометр.
**10.45** Школа рамонту.
**11.50** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.25** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.30** Наперад у мінулае.
**14.05** Беларуская кухня.
**14.40** «Уніз па Ясельдзе-рацэ». Дакументальны фільм.
**14.55** Фільм для ўсёй сям'і «Рога і капыты» (ЗША).
**16.50** «Футбол. Чэмпіянат свету-2014». Відэачасопіс.
**19.20** Фільм-катастрофа «Экіпаж» (СССР). 1-я і 2-я серыя.
**19.55** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.15** Гістарычная меладрама «Мол Флэндэрс» (ЗША).
**00.30** Шоў «Суперінтуіцыя».

### РОССИЯ

**07.00** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**08.40** «Лясное возера» (2011 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весці.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Хто паедзе ў Трускавец».
**13.25** «У свеце жывёл».
**14.00** Весці.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма Эдуарда Пятрова.
**14.50** «Кінавойны па-савецку».
**15.50** «Гарадок». Дайджэст.
**16.25** «Вам і не снілася..».
**18.10** «Суботні вечар».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весці.
**20.30** «Маці і мачаха». 2012 г.
**23.55** «Шукаю цябе» (2010 г.).

### НТВ

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Мужы».
**08.00, 10.00, 13.00, 19.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Жывуць жа людзі!».
**09.25** «Справа густу».
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** Кулінарны паядынак.
**11.55** Кватэрнае пытанне.
**13.25** Мастацкі фільм «Бумеранг».
**15.10** «Развод па-руску».
**16.05** «Пракурорская праверка».
**17.05** Вочная стаўка.
**18.00** Выратавальнікі.
**18.30** «Прафесія - рэпарцёр».
**19.25** Прэм'ера. «Прамень святла».
**20.00** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**21.55** Ты не паверыш!
**22.45** Прэм'ера. Вострасюжэтны фільм з цыклу «Важняк».
**00.25** «Шокавая тэрапія».

### EUROSPORT

**09.30** Фітнэс. Часопіс.
**09.45, 14.30** Веласпорт. «Тур дэ Франс». 18-ы этап.
**10.45** Скачкі на лыжах. Летні Гран-пры. Вісла.
**12.00, 13.15** Live. Пляжны футбол. Партугалія.
**15.00** Live. Веласпорт. «Тур дэ Франс». 19-ы этап.
**18.45** Live. Скачкі на лыжах. Летні Гранпры. Вісла.
**20.00** Наймоцныя людзі планеты. Фінляндыя.
**20.30** Live. Аўтаспорт. Серыя AutoGP. Бразілія. Заезд 1.
**21.30** Аўтаспорт. Серыя GP3. Хаккенхайм. Заезд 1.
**22.00** Live. Аўтаспорт. Чэмпіянат свету ў класе «Турынг». Бразілія. Кваліфікацыя.
**22.40** Спартовы шлях. Часопіс.
**22.45** Конны спорт. Global Champions Tour.
**00.00** Ралі IRC. Румынія. Агляд.
**00.30** Live. Тэніс. Турнір WTA. Карлсбад. 1/2 фіналу.
**01.45** Веласпорт. «Тур дэ Франс». 19-ы этап.
**03.00** Тэхнічны перапынак.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**08.00** «Піпі Доўгапанчоха», серыял.
**08.30** «Мой родны горад», серыял.
**08.55** Размовы эксперта.
**09.15** Навігатар.
**09.30** Прыватная калекцыя.
**09.50** На колах.
**10.15** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 7 серыя.
**11.00** «Акварыум», серыял: 2 серыя.
**11.50** Англійская для дзяцей.
**11.55** Казкі для дзетак: «Сцэны з жыцця цмокаў», «Фільм са страшнай назвай», «Чацвёра вушэй у пералеску».
**12.25** «Піпі Доўгапанчоха», серыял.
**12.55** Беларускія лёсы: «Чырвоны беларус», дак. фільм, Беларусь.
**13.25** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 6 серыя.
**14.10** Гісторыя – на вакацыі: «Распаведу вам пра вайну», дак. фільм, рэж. Сяргей Ісакаў, 2009 г., Беларусь.
**15.00** МакраФон: Канцэрт «Іх N.R.M – іх Мроя».
**15.25** «Мой Нікіфар», маст. фільм, рэж. Кшыштаф Краўзэ, 2004 г., Польшча.
**17.05** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 4 серыя.
**17.50** Гарадзенская вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Дэфект», тэлесерыял: 6 серыя.
**19.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**19.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**20.00** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**20.10** Еўропа сёння.
**20.40** Побач з намі.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** «Браты-ворагі», дак. серыял: 7 серыя.
**21.45** Суботні сеанс: «Была ці не была?», камедыя, рэж. Карнэліў Парумбою, 2006 г., Румынія.
**23.15** Аб'ектыў.
**23.30** Лета з дэтэктывам: «Арол: крымінальная сага», серыял: 13 серыя.
**00.30** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## 22 ЛІПЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Існасць.
**07.25** Дэтэктыў «Самы лепшы вечар» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Тэлефільм АТН «Горад магутнага льва» цыкла «Зямля беларуская».
**09.55** Камедыйны серыял «Зачараваны ўчастак» (Расія).
**10.50** Зона Х. Вынікі тыдня.
**11.25** Мультфільм «Папялушка».
**12.10** Медычныя таямніцы з доктарам А.Цярэшчанкам.
**12.55** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда». Фільм «Томас Андэрс».
**14.05** Час Саюза.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** «Боцман і чыюк». Мультфільм.
**15.50** Залатая калекцыя савецкага кінематографа. Камедыйны вестэрн «Чалавек з бульвара Капуцынаў» (СССР).
**17.40** Каробка перадач.
**18.15** Суперлато.
**19.05** Камедыя «Ўрокі спакушэння» (Расія-Ўкраіна).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне. «Сектар».
**22.30** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Аляксандр Новікаў.
**23.55** Крымінальны баявік «Пад кайфам» (ЗША).

### Н

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** «Фазэнда».
**11.45** Прыгодніцкі фільм «Маленькая прынцэса».
**13.25** «Фальшывыя біяграфіі».
**14.20** «КВЗ». Прэм'ер-ліга.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Кардыёграма кахання».
**18.00** «Проста смех!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера. «Галубка».
**23.10** «Yesterday live».
**00.10** «Прыватны дэтэктыў, ці Аперацыя «Кааперацыя».

### ТВ

**06.20** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**07.10** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-14». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочца прадстаўляе: самае смешнае».
**10.20** «Вялікі сняданак».
**11.00** «1408». ЗША, 2007 г.
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.35** «Мы з джаза». СССР, 1983 г.
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.20** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** «Фільм тыдня»: «Добры». Германія - Вялікабрытанія, 2008 г.
**22.30** «Пякельная кухня».
**23.45** «Арт-хаўс»: «Мост Караля Людовіка Святога». Францыя-Вялікабрытанія-Іспанія, 2004 г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.30** Размова са святаром.
**07.40** Прыступкі Веры.
**07.55** Таямніца душы.
**08.25** Фільм-катастрофа «Экіпаж» (СССР).
**11.00** Тэлебарометр.
**11.10** Школа рамонту.
**12.20** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.25** Вышэй дахаў.
**14.00** Бухта капітанаў.
**14.40** Прыгодніцкі фільм «Міс мядзведзіца» (Германія- Канада).
**15.35** «Да мяне, Мухтар» (СССР).
**18.20** «Футбол. Чэмпіянат свету-2014». Відэачасопіс.
**18.50** Шпіёнскі баявік «Святы» (ЗША).
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.40** Камедыйная меладрама «Кароткі мантаж» (ЗША).
**00.55** Шоў «Суперінтуіцыя».

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** «Уся Расія».
**07.15** «Ха». Маленькія камедыі.
**07.45** «Маці і мачаха» (2012 г.).
**11.00** Весці.
**11.15** «Сам сабе рэжысёр».
**12.00** «Смехапанарама Яўгенія Петрасяна».
**12.30** «Добры дзень, доктар!».
**14.00** Весці.
**14.15** «Уся Расія».
**14.30** «Прышэльцы. Гісторыя ваеннай таямніцы».
**15.25** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.00** «Мілы, дарагі, каханы, адзіны..».
**17.25** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**19.15** «Рассмяшы коміка».
**20.00** Весці.
**20.30** «Шлях да сябе» (2010 г.).
**23.50** «Каханне на сене» (2009 г.).

### НТВ

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Мужы».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** Іх норавы.
**09.25** Ямо дома!
**10.00** Сёння.
**10.20** «Жаночы погляд».
**11.05** Дачны адказ.
**12.05** «Крамлёўскія пахаванні».
**13.00** Сёння.
**13.30** Прэм'ера. «Кольцы лёсу». Дакументальны спецпраект Вадзіма Глускера.
**16.05** «Пракурорская праверка».
**17.05** І зноў дабрыдзень!
**18.00** «Бывае ж такое!».
**18.30** «Прафесія - рэпарцёр».
**19.00** Сёння.
**19.30** Чыстасардэчнае прызнанне.
**21.55** «Таемны шоў-бізнэс».
**22.55** Прэм'ера. Вострасюжэтны фільм «Скандал у высакародным сямействе» з цыклу «Важняк».
**00.30** «Увага, вышук!».

### EUROSPORT

**09.30** Ралі IRC. Румынія. Агляд.
**10.00** Аўтаспорт. Серыя GP3. Хаккенхайм. Заезд 1.
**11.00, 14.30** Веласпорт. «Тур дэ Франс». 19-ы этап.
**12.00** Скачкі на лыжах. Летні Гран-пры. Вісла.
**13.00** Live. Супербайк. Чэмпіянат свету. Чэхія. Заезд 1.
**14.00** Аўтаспорт. Суперкубак Паршэ. Германія.
**15.00** Live. Веласпорт. «Тур дэ Франс». 20-ы этап.
**19.00** Мотаспорт. Суперспорт. Чэмпіянат свету. Чэхія.
**19.45** Супербайк. Чэмпіянат свету. Чэхія. Заезд 2.
**20.45** Live. Аўтаспорт. Чэмпіянат свету ў класе «Турынг». Бразілія. Заезд 1.
**21.45** Live. Аўтаспорт. Чэмпіянат свету ў класе «Турынг». Бразілія. Заезд 2.
**23.00** Тэніс. Матс Пойнт. Часопіс.
**23.30** Тэніс. Турнір WTA. Карлсбад. 1/2 фіналу.
**00.00** Live. Тэніс. Турнір WTA. Карлсбад. Фінал.
**01.45** Веласпорт. «Тур дэ Франс». 20-ы этап.
**02.15** Матаспартовы часопіс.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Англійская для дзяцей.
**07.20** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Аповеды таты Бабра».
**07.50** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 14 серыя.
**08.15** «Мой родны горад», серыял: 14 серыя.
**08.40** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.55** Побач з намі.
**09.10** «Дэфект», тэлесерыял: 7 серыя.
**10.05** Еўропа сёння.
**10.30** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 4 серыя.
**11.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.45** Англійская для дзяцей.
**11.50** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Аповеды таты Бабра».
**12.20** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 14 серыя.
**12.45** Лета з дэтэктывам: «Арол: крымінальная сага, серыял: 13 серыя.
**13.45** Прыватная калекцыя.
**14.15** «Браты-ворагі», дак. серыял: 7 серыя.
**14.45** Аўтастопам праз Еўропу.
**15.10** «Была ці не была?», камедыя, рэж. Карнэліў Парумбою, 2006 г., Румынія.
**16.35** Форум (ток-шоу).
**17.20** «CIA: таемныя войны», рэж. Вільям Карэль, 2008 г., Францыя: фільм 3, «Вайна спараджае вайну (1990–2001)».
**18.15** «Каралева Бона», тэлесерыял: 7 серыя.
**19.15** Басанож па свеце.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**20.00** Дак. гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, рэж. Мішэль Ноль, 2005 г., Францыя: 4 серыя, «Смерць у каланіяльным стылі. Забойства Патрыса Лумумбы».
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Размовы эксперта.
**22.00** Фільматэка майстроў: «Грамадзянін Гавэл», рэж. Міраслаў Янэк, Павэл Коўтэцкі, 2008 г., Чэхія.
**00.05** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.45** Лета з дэтэктывам: «Арол: крымінальная сага», серыял: 14 серыя.
**01.45** «Бульбаны», мультсерыял.

---

МЕРКАВАННЕ

# МЕКСІКАНСКІ ПАСЬЯНС

**2 ліпеня ў Мексіцы кандыдат кіруючай Партыі нацыянальнага дзеяння (PAN) прайграў кандыдату ад апазіцыі. Журналіст НЧ Алег Новікаў пацікавіўся ў мексіканскага культуролага і лінгвіста Леанарда Эстрада Мендэса, якім чынам гэта паўплывае на развіццё краіны і ўсяго рэгіёну Лацінскай Амерыкі.**




***— Сярэднестатыстычны беларус нічога не ведае пра мексіканскі палітычны працэс. Але яго, безумоўна, зацікавіць той факт, што зараз да ўлады прыйшла партыя, якая да PAN кіравала краінай роўна 60 гадоў. Гаворка пра Інстытуцыянальную рэвалюцыйную партыю (PRI). Што стаіць за феноменам вяртання PRI ва ўладу — расчараванне палітыкай лібералаў з PAN або настальгія па гадах адноснай палітычнай стабільнасці?***

— PRI даўно не мае выразнага ідэалагічнага профілю. Гэта партыя, якая перамагае за кошт моцных мясцовых структур. Таму казаць тое, што мексіканскаму выбаршчыку ўласцівыя антыліберальныя забабоны, цяжка. Хутчэй за ўсё, мы можам параўнаць сітуацыю з Украінай пасля аранжавай рэвалюцыі, калі ў грамадстве пасля кучмаўскага застою назіралася шмат ілюзій наконт новых лідараў. Між тым, украінская палітыка, як і мексіканская, даўно набыла формы прыватнага бізнэсу, і ў выніку абяцанні не былі выкананыя. Людзі папросту выкарысталі выбары, каб пакараць такога кшталту палітыкаў. Таму вынікі галасавання можна разглядаць як форму калектыўнай помсты на адрас PAN, якая зашмат абяцала. Праўда, тут параўнанні з Украінай заканчваюцца. PAN сапраўды стала партыяй сярэдняга класа і, думаю, яшчэ нагадае пра сябе праз тры гады, калі адбудуцца парламенцкія выбары.

***— Вядома, што PAN — самая праамерыканская партыя. Менавіта пры PAN Мексіка стала сябрам Паўночна-Амерыканскай свабоднай гандлёвай зоны (NAFTA). Легендарная нянавісць мексіканцаў да грынга не магла паўплываць на выніку галасавання?***

— Хутчэй, сваю ролю адыгралі не сімпатыі PAN да ЗША, а палітыка Вашынгтона адносна Мексікі. Парадаксальна, аднак стварэнне NAFTA хутчэй пагоршыла стан простых мексіканцаў. Адміністрацыя Абамы так і не легалізавала мексіканскіх нелегалаў у ЗША. Хутчэй за ўсё, гэта адна з тэм, якой Барак Абама будзе ахвяраваць падчас палітычнай гульні ў парламенце. Нарэшце, амерыканцы ўскосна садзейнічаюць росту крыміналу ў Мексіцы. Я маю на ўвазе рост уплыву структур наркамафіі. Гаворка пра тое, што не прынятыя ніякія меры па кантролю за продажам зброі ў памежных з Мексікай амерыканскіх штатах. Калі ў нас нават на набыццё пісталета патрэбны дазвол паліцыі, то ў тым жа Тэхасе ў спецкрамах у вольным продажы ёсць нават базукі. Наша наркамафія набывае зброю і кантрабандай перапраўляе яе ў Мексіку, дзе выкарыстоўвае яе для вайны з уладай.

***— Што ўяўляе сабой мексіканская злачыннасць у паўсядзённым жыцці? Ці можна параўнаць яе з моладзевымі вулічнымі бандамі ў суседняй Гватэмале, якія літаральна тэрарызуюць усіх?***

— Не. Крымінал у Мексіцы не мае паўсядзённага характару. Нават у крымінальных раёнах няма непасрэднай небяспекі для жыцця. Хаця напружанасць прысутнічае. Мафія і бандытызм больш занятыя такімі сферамі, як рэкет казіно або трафік наркотыкаў. Хаця апошнім часам сітуацыя трошкі пагоршылася — стала больш распаўсюджаным выкраданне людзей з мэтай выкупу. Гэта добры бізнэс для малых гангаў, якія вядуць паляванне нават за прадстаўнікамі сярэдняга класу.

***— Як вядома, другое месца на выбарах 2 ліпеня атрымаў Андрэ Лопес Абрадор, кандыдат левай Рэвалюцыйна-дэмакратычнай партыі. Ужо другі раз запар ён прыходзіць другім. Як вядома, першая параза ў 2006 годзе закончылася нечаканай ініцыятывай з боку Абрадора. Ён абвясціў сябе сапраўдным прэзідэнтам Мексікі, стварыў альтэрнатыўную адміністрацыю і паспрабаваў таксама кіраваць краінай. Чым закончыўся той эксперымент, і ці не збіраецца Абрадор зноў абвясціць сябе прэзідэнтам?***

— Альтэрнатыўнае прэзідэнцтва кандыдата ад рэвалюцыйных дэмакратаў хутчэй нагадвала піяр-ход. Каб такі праект сапраўды рэалізаваўся, Лопес павінен мець падтрымку з боку большасці грамадскіх арганізацый, прафсаюзаў. Па-другое, падобная рэакцыя на правал была працягам ролевай гульні, якую выконвае Абрадор. У гэтым плане ён чымсьці падобны на мексіканскага Жырыноўскага — увесь час публічна парушае правілы гульні, скандаліць. Таму асабліва сур'ёзна яго абвяшчэнне сябе гарантам ніхто не ўспрыняў. З іншага боку, гэта акцыя выклікала дыскусію наконт таго, наколькі легітымная ўлада ў вачах народу. Акрамя таго, прэзідэнт Кальдэрон быў вымушан нейк рэагаваць на крокі ўраду Абрадора. Напрыклад, услед за альтэрнатыўным прэзідэнтам замарозіў кошты на нейкія прадукты.

Я не думаю, што нас чакае рымейк падзей 2006-га. Ужо хаця б таму, што 63 працэнты выбаршчыкаў 6 гадоў таму не падтрымалі стварэнне інстытутаў альтэрнатыўнай улады. Акрамя таго, сам Абрадор зараз імкліва мяняе імідж. Ён разумее, што стаць прэзідэнтам без падтрымкі часткі сярэдняга класа немагчыма, і актыўна робіць сабе імідж больш памяркоўнага палітыка.

***— Можна згадаць, што альтэрнатыўны ўрад Абрадора — не першая спроба рэвалюцыі ў Мексіцы за апошнія часы. У 1994 годзе ў штаце Чыяпас індзейцы пад кіраўніцтвам субкамандантэ Маркаса (старшыня «Фронту нацыянальнага вызвалення імя Сапаты») узнялі вайсковы мяцеж, і нават захапілі адміністратыўны цэнтр штату — Сан-Крыстабаль. Праз нейкі час у Чыяпасе была абвешчана фактычная незалежнасць ад Мексікі, пачалася спроба стварэння альтэрнатыўнай сацыяльнай мадэлі. Чым закончыўся незвычайны эксперымент?***

— Сітуацыя ў Чыяпасе апошнім часам законсервавалася. Паўстанцы працягваюць утрымліваць Сан-Крыстабаль і асобныя раёны штату, аднак развіваць наступ не збіраюцца. Не так моцна прысутнічаюць сапатысты цяпер і ў інфармацыйным полі. Некаторыя кажуць, што такая пасіўнасць можа быць звязана з асабістымі праблемамі самога Маркаса. Так ці інакш, на агульнапалітычную сітуацыю ў Мексіцы канфлікт у Чыяпасе больш не ўплывае.

***— Паўстанне ў Чыяпасе павінна было таксама вырашыць індзейскае пытанне ў Мексіцы. Якая зараз сітуацыя з індзейцамі ў краіне? Як вядома, апошнім часам Лацінская Амерыка перажывае сапраўдны індзейскі рэнесанс. Напрыклад, у Балівіі і Венесуэле створаныя цэлыя міністэрствы па правах індзейцаў. Гэта ўсё неяк уплывае на мексіканскую грамадскую дыскусію?***

— Усяго ў нас жыве каля дзесяці з паловай мільёнаў індзейцаў. Лінгвісты налічылі 64 індзейскія мовы. Ніякай асаблівай індзейскай палітыкі ўрад не праводзіць. Хіба што пасля падзей у Чыяпасе племянныя саветы старэйшынаў атрымалі права судзіць сябры свайго племені на аснове традыцыйнага права. Індзейцы паступова інтэгруюцца ў мексіканскае грамадства. Частка з іх захоўвае гонар за прыналежнасць да нейкага народу і падтрымлівае структуры зямляцтваў. Іншыя — не. Я б не сказаў, што ў грамадстве ёсць інтарэс да індзейцаў. Кампактна яны жывуць на поўдні краіны, а фокус інтарэсаў Мексікі — на Поўначы, у ЗША.

***— Такая абыякавасць да праблемы поўдня краіны вельмі цікавая, паколькі Мексіка доўгі час была лідарам Лацінскай Амерыкі.***

— Мы страцілі лідарства ў рэгіёне, і, думаю, прычына тут не ў росце экспансіі ЗША ў мінулым стагоддзі. Проста мы дасюль не можам пазбавіцца траўмы, якую атрымалі падчас іспанскай каланізацыі. З таго часу мексіканцы адчуваюць нейкі комплекс нацыі другога гатунку. Індзейцы ў Мексіцы мараць быць метысамі, метысы — белымі, а белыя — амерыканцамі. Патрэбны нейкі маштабны выклік, пераадольваючы які нацыя зноў адчуе палітычную волю.

Мы страцілі лідарства ў рэгіёне, і, думаю, прычына тут не ў росце экспансіі ЗША. Проста мы дасюль не можам пазбавіцца траўмы, якую атрымалі падчас іспанскай каланізацыі

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Заходнія краіны вагаюцца перад выбарам: цалкам спыніць змаганне за свой уплыў у Беларусі і прызнаць паразу ці паспрабаваць вярнуць сабе магчымасць уплываць на сітуацыю хоць бы на нейкім узроўні? У сувязі з гэтым верагоднасць атрымання беларускім бокам крэдыту МВФ «не нулявая». Хутчэй за ўсё, у гэтага пагаднення паўстануць палітычныя ўмовы, і гандаль будзе не вельмі хуткім, а рашэнне — такім, каб абодва бакі захавалі твар.

**«REGNUM» (Расія)**

Лукашэнка ўсё часцей бярэ малодшага сына з сабой у вандроўкі. Гэта можна было б прыняць за змушаны ўчынак занятага бацькі, які жадае трымаць дзіця пры сабе. Калі б не фраза, сказаная Лукашэнкам на прэс-канферэнцыі паўтара гады таму: «Прэзідэнтамі не становяцца, імі нараджаюцца». Усё гэта нагадвае занадта прасталінейную рэкламную кампанію. Шматлікія беларусы да таго ж абураюцца тым, што гэтага Колю так рана прыцягваюць да дзяржаўных спраў, робяць будучым уладальнікам трона.

**«Tagesanzeiger» (Швейцарыя)**

Плюшавыя мішкі ў беларускім небе, жорсткая рэзалюцыя Еўрапарламента і прызначэнне спецдакладчыка ААН па Беларусі — сімвалічныя падарункі Захаду да 18-годдзя знаходжання Лукашэнкі ва ўладзе.18 гадоў кіравання так і не навучылі Лукашэнку адэкватна ацэньваць сітуацыю ў палітыцы і эканоміцы і памяркоўна ставіцца да крытыкі ў свой адрас. Таму «падарункі» — знакі ў выглядзе рэзалюцый і санкцый, а таксама акцыі пратэсту неабыякавай еўрапейскай грамадскасці будуць непазбежнай з'явай да таго часу, пакуль да беларускай улады не прыйдзе ўсведамленне ўзросту грамадзянскага паўналецця.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Паміж Беларуссю і Захадам дыялог выключаны зараз нават фармальна. Мінск выйшаў з праграмы «Дыялог у імя мадэрнізацыі», ініцыяванай Еўрасаюзам паўгода таму. Гэта быў апошні праект Еўрасаюза, у якім хоць бы намінальна яшчэ была прадстаўлена рэспубліка. Іншых сумесных варыянтаў узаемадзеяння паміж імі не засталося. Між тым, у канцы тыдня ўпершыню за шматлікія гады ў Еўропу адправіцца кіраўнік Цэнтрвыбаркаму (ЦВК) Беларусі Лідзія Ярмошына. Яна прыме ўдзел у канферэнцыі АБСЕ «Дэмакратычныя выбары і назіранне за імі». Усе гэтыя камандзіроўкі, кажуць эксперты, сведчаць пра тое, што таемныя перамовы паміж Брусэлем і Мінскам ідуць.

**«Голос России» (Расія)**

Бяда ў тым, што парад тэхнікі вытворчасці 1970–1980-х гадоў не прадэманстраваў боегатоўнасць беларускага войска, а хутчэй наадварот — яго адсталасць. Кадры беларускага тэлебачання з узброенымі фотатэхнікай замежнымі ваеннымі аташэ сведчаць не пра тое, што ваенных дыпламатаў уразіла моц беларускага войска, а хутчэй кажуць пра замілаванне пры назіранні за рэтра. З'яўленне на трыбуне А. Лукашэнкі і М. Лукашэнкі ў грамадзянскім адзенні з'яўляецца пазітыўным момантам, адпавядае запытам часу і настроям у асяроддзі беларускага як палітычнага класа, так і насельніцтва. Аднак не верыцца, што да такога кроку А. Лукашэнка змог дадумацца сам. Аўтар гэтых радкоў можа зрабіць здагадку наконт таго, што форму для бацькі і брата прыдумаў Віктар Лукашэнка, што ў прынцыпе правільна: на фоне шпакляваных танкаў і кітайскіх джыпаў беларускі генералісімус і юны хлопчык у генеральскім мундзіры выглядалі б анекдатычна.

**«Politoboz» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ФРАНЦЫЯ. БАЦЬКА КРЫТЫКУЕ ДАЧКУ

Здаецца, Жан-Мары Ле Пэн, заснавальнік французскай правай радыкальнай партыі «Нацыянальны фронт» (FN), незадаволены сваёй дачкой Марынай, якой ён перадаў партыю ў спадчыну. Нягледзячы на тое, што пры Марыне рэйтынг FN дасягнуў гістарычнага максімуму (на выбарах прэзідэнта яна атрымала 17 працэнтаў), бацька крытыкуе Марыну. У інтэрв'ю амерыканскаму часопісу «Times» ён назваў яе «прадстаўніком дробнай буржуазіі», што не разумее думак простага народа. Увогуле, бацька і раней некалькі разоў дэманстраваў нязгоду з курсам Марыны на тое, каб ператварыць «Нацыянальны фронт» у нармальную буржуазную партыю, аднак ацэнак такога кшталту не дапускаў. Цяпер эксперты намагаюцца зразумець, наколькі глыбокія супярэчнасці паміж чальцамі сям'і Ле Пэн, і ў чым яны палягаюць. Пакуль канчатковага адказу на гэта пытанне няма. Адна з папулярных версій — Марына хоча змяніць назву партыі, каб яна не рэзала вуха буржуа, на што бацька катэгарычна не згодны. У тым жа інтэрв'ю ён нават заклікаў дачку стварыць сабе сваю партыю, калі яна такая разумная.

**Паводле французскай прэсы**

### РАСІЯ. СКАНДАЛ ВАКОЛ ГІМНУ ТАТАРСТАНА

Татарстан рызыкуе страціць гімн. Нагадаем, што цяпер гэта мелодыя «Туган ягым» («Родны край»), якую яшчэ ў 1970 годзе напіў мясцовы кампазітар Рустэм Яхін. У якасці гімну яе зацвердзілі яшчэ ў 1992-м. Гэта песня адкрывае кожную сесію Дзяржаўнай рады Татарстана, гучыць на рэспубліканскіх мерапрыемствах і хатніх матчах вядомых казанскіх спартовых клубаў «Рубін» і «Ак Барс». Цяпер абвешчаны конкурс на словы да мелодыі. Між тым, родныя кампазітара, а менавіта яго стрыечная сястра Святлана Харытонава, патрабуюць выплаты ім аўтарскіх ганарараў за выкананне «Туган ягым». У іншым выпадку яна збіраецца забараніць выкананне гімну праз суд. Пакуль сума, якую патрабуе Святлана, не называецца. Аднак відавочна, што гэта не менш, чым 7 000 доляраў ЗША — менавіта столькі павінен атрымаць у якасці прызу паэт, які напіша тэкст да музыкі Яхіна.

**Паводле расійскай прэсы**



### ЕГІПЕТ. ПАМІДОРЫ – ЗБРОЯ КРЫЖАКОЎ

Незвычайны заклік распаўсюдзіла ў інтэрнэце егіпецкая «Асацыяцыя народных ісламістаў». Яна заклікае мусульман свету не ўжываць памідоры. Чаму? Каб знайсці адказ, ініцыятары кампаніі заклікаюць папросту ўзяць памідор, разразаць яго на дзве часткі і паглядзець на ўнутранасці, а дакладней, на малюнак, які яны ўтвараюць. На кожнай з палавінак вы ўбачыце выяву, чымсьці падобную на крыж. Гэтая кампазіцыя, на думку фундаменталістаў, не што іншае, як жудасная сімволіка ўдзельнікаў сярэднявечных крыжовых паходаў. У дадатак, нагадваюць сябры асацыяцыі, у Каране нічога пра памідоры не гаворыцца. Адсюль выснова — кожны прававерны павінен выключыць гэты від гародны са свайго рацыёну, а пры магчымасці нават байкатаваць продаж крамольнай расліны, не кажучы пра тое, каб мець яе на агародзе.

**Паводле французскай прэсы**

### УКРАІНА. РАСІЙСКАЯ ПАПСА ЗАБАРОНЕНАЯ Ў МАРШРУТКАХ




Вялікі рэзананс дзякуючы праўладнай прэсе Украіны набыў скандал у Львове. Там вядомая нацыяналістка і гарадскі дэпутат Ірына Фарыён патрабуе звольніць вадзіцеля маршруткі за тое, што ў салоне яго машыны гучала руская папса. 11 чэрвеня дэпутат зайшла ў аўтобус. «У салоне гучала руская музыка, — распавядае яна. — Я папрасіла кіроўцу выключыць музыку. Той адрэагаваў бурна: «Чым яна вам перашкаджае?» Пасля паездкі Фарыён звярнулася з заявай да начальніка гарадскога кіравання транспарту. Цяпер прафкам будзе вырашыць, звальняць ці пакідаць кіроўцу на пасадзе. Гэта гісторыя актыўна выкарыстоўваецца Партыяй рэгіёнаў як ілюстрацыя прыгнёту рускамоўных ва Украіне і як аргумент у абарону нядаўна прынятага закону пра пашырэнне сферы выкарыстання рускай мовы. Аднак пры гэтым не гаворыцца пра тое, што ў Львове дзейнічае пастанова, паводле якой у грамадскім транспарце на тэрыторыі вобласці забараняюць уключаць усялякую музыку, у тым ліку ўкраінскую.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

**ВЫБАРЫ**

# КАМУ ДАСТАНУЦЦА БОНУСЫ ЕЎРА–2012?

*Алег НОВІКАЎ*

**Напярэдадні парламенцкіх выбараў ва Украіне партыя ўлады і апазіцыя намагаюцца атрымаць як мага больш палітычных бонусаў на тэме Еўра–2012.**




Яшчэ за тыдзень да таго, як на кіеўскім стадыёне «Алімпійскі» прагучаў фінальны свісток апошняга матчу Еўра–2012, прэса, якая належыць алігархам Партыі рэгіёнаў, пачала мусіраваць тэзіс пра тое, што Украіна — галоўны пераможца турніру. Пад перамогай разумеліся не наяўнасць медалёў, а добрая арганізацыя мерапрыемства.

Такая аператыўнасць цалкам зразумелая: у кастрычніку — парламенцкія выбары, і дастойнае правядзенне турніру, здаецца, будзе адным з джокераў белаблакітнага агітпропу.

Працягнулася істэрыка вакол Еўра–2012 і пасля заканчэння чэмпіянату. Ужо тое, што турнір адбыўся, падаецца як глабальная падзея ў гісторыі. Як знак таго, што Януковіч адрадзіў дзяржаўны менеджмент. «Футбольны чэмпіянат паказаў, што нам пад сілу рэалізоўваць маштабныя праекты. Еўра–2012 паказала, што, аказваецца, у нашых умовах, пры ўсёй крытыцы ўлады, дзяржава ў стане рэалізаваць буйныя эканамічныя праекты, калі бярэцца за іх», — піша праўладны «Киевский телеграф».

Адначасова расповед пра годную арганізацыю чэмпіянату набывае новыя фарбы. Аказваецца, каманда Януковіча не проста годна правяла чэмпіянат, а фактычна ў апошнюю хвіліну выратавала яго ад правалу — такая перспектыва пагражала мерапрыемству з-за палітыкі аранжавых.

«Замест таго, каб падрыхтаваць чэмпіянат, урад Цімашэнка перадаў падрады сваім фінансавым спонсарам, якія ў канчатковым рахунку не выканалі тое, што абяцалі», — заявіў украінскі міністр інфраструктуры Барыс Стальмахаў у інтэрв'ю радыёстанцыі «Рэха Масквы».

Больш за тое, высвятляецца, нібыта апазіцыянеры арганізавалі цэлую змову з мэтай сарваць турнір. «Мы былі сведкамі таго, як незадоўга да правядзення Еўра–2012 была прафінансавана кампанія, якая павінна была прадставіць Украіну як краіну, куды ехаць небяспечна для жыцця. Адзін спартовец (экс-гулец зборнай Англіі Сол Кэмпбел) заявіў, што ў труне можна вярнуцца», — выкрыў паднаготную планаў нябачнага ворага прэм'ер Мікола Азараў.

Яшчэ далей пайшоў віцэ-прэм'ер Барыс Калеснікаў: «І палітычная сіла, і ўрад Цімашэнкі тройчы ставілі Украіну ў пытаннях Еўра на мяжу дэфолту. Першае — калі яны цалкам правалілі падрыхтоўку да чэмпіянату, і Украіна апынулася на мяжы таго, што яе ўпершыню ў сусветнай гісторыі пазбавяць турніру. Другое — калі апазіцыя заклікала байкатаваць Еўра і сюды не ехаць. Гэта было ўвесну 2012 года. І цяпер, калі чэмпіянат прайшоў паспяхова, і мы чуем галасы, што гэта ўсё вакол карумпавана», — заявіў віцэ-прэм'ер.

Калі верыць бела-блакітнай прэсе, Украіна абавязана Партыі рэгіёнаў не толькі добра арганізаваным турнірам, аднак і... інтэграцыяй у Еўропу. «Чэмпіянат Еўра–2012 давёў, што Украіна — еўрапейская дзяржава», — сказаў Віктар Януковіч. Пры гэтым спасылка робіцца на колькасць турыстаў: за час Еўра–2012 краіну наведала 8,3 мільёна іншаземцаў.

Самую фантастычную тэзу прыдумала Юля Багаслоўская — адзін з функцыянераў Партыі рэгіёнаў. Па яе словах, правал нямецкай зборнай даказаў, што немцы, якія дамагаліся вызвалення Цімашэнка, не маюць рацыі.

«Нямецкая тактыка сілавога ціску добра адладжанай машыны ў сённяшнім творчым, жывым і эмацыйным футболе неэфектыўная. І калі ўжо менавіта нямецкія праўладныя палітыкі з выкарыстаннем футбольнага свята Еўра–2012 узначалілі несправядлівую, і таму прайграную палітычную вайну супраць Украіны, то пройгрыш нямецкай каманды выглядае зусім не выпадковым», — піша Багаслоўская.

А што апазіцыя? Яна аказалася ў цяжкім становішчы, паколькі некаторыя яе фракцыі сапраўды падтрымлівалі лозунг байкоту Еўра–2012 з боку Еўропы. Таму аранжавыя выдумалі сваю трактоўку.

Іх галоўны канёк — бухгалтэрыя. Па падліках апазіцыйных экспертаў, баланс Еўра–2012 у грашовым эквіваленце дэфіцытны. Атрыманыя мільённыя прыбыткі не пакрываюць мільярдных інвестыцый у спартовую і турыстычную інфраструктуру. Усяго ў арганізацыю чэмпіянату ўклалі 5,5 мільярда доляраў, а атрымалі падчас чэмпіянату ўсяго толькі 300 мільёнаў. Аранжавая прэса ахвотна пужае аўдыторыю тым, што кампенсаваць фінансавыя страты будзе шараговы падаткаплацельшчык.

Крытыкуе апазіцыя і слабую лагістыку арганізатараў Еўра–2012. Асабліва ёй не падабаецца будаўніцтва дарагіх гатэляў. Па статыстыцы, у час чэмпіянату яны былі запоўненыя ў сярэдні толькі на 40 працэнтаў. Як высветлілася, футбольныя фанаты аказаліся вельмі простымі людзьмі, якім не патрэбны асаблівы камфорт. Як прызнаецца дырэктар аднаго з львоўскіх кафэ, самым папулярным у час Еўра–2012 было так званае «фан меню», у склад якога ўваходзяць тры пазіцыі — піва, хлеб і сасіска.

Аранжавыя таксамі паспрабавалі разбурыць дастаткова прыемнае ўражанне, якое склалася ў іншаземцаў ад Данецка. Як вядома, Данбас вельмі дэманізаваны ў апазіцыйнай прэсы. На старонках газет з'явіўся кампрамат пра тое, што напярэдадні чэмпіянату мэрыя Данецка гвалтоўна перасяліла ўсіх мясцовых бамжоў у суседні Мелітопаль. Цікава рэакцыя муніцыпалітэту. На думку мэра Данецку, бамжы самі мігрыруюць на поўдзень з пачаткам курортнага сезону.

Аднак нягледзячы на татальныя недахопы, само Еўра–2012 усё ж разглядаецца аранжавымі як пазітыўная рэч. На думку аўтарытэтнай апазіцыйнай газеты «День», «людзі пабачылі, што яны нічым асабліва не адрозніваюцца ад еўрапейцаў». «Еўра–2012 можа стаць для нас эфектыўным інструментам камунікацыі з глабальнай сям'ёй народаў», — лічыць выданне. Аднак пры гэтым той жа «День» яшчэ раз нагадвае: «Замацаваць і ўзмацніць імпульс Еўра можна выключна пры ўмове змены прынцыпаў працы кіруючага апарату».

Нельга не згадаць пра рэфлексіі некаторых флангаў апазіцыі. Самы неардынарны падыход да Еўра, безумоўна, прадэманстравалі ўкраінскія нацыяналісты. Той факт, што ў камандзе пераможцаў — зборнай Іспаніі — няма ніводнага чарнаскурага, яны растлумачылі як выдатную селекцыйную працу трэнераў, якую павінны ўзяць на ўзбраенне ўсе футбольныя спецыялісты Украіны.

Увогуле, пакуль контуры піяру Партыі рэгіёнаў і апазіцыі толькі вымалёўваюцца. Пра тое, якое месца дакладна будзе займаць тут Еўра–2012, будзе вядома бліжэй да верасня, калі выбарчая кампанія ва Украіне ўступіць у вырашальную стадыю.

Між тым народ, здаецца, ужо выпрацаваў імунітэт супраць прапаганды на тэму Еўра–2012. На Украіне цяпер вельмі папулярны анекдот: «У замежніка, які наведаў Украіну падчас Еўра–2012, бяруць інтэрв'ю: «Вам спадабалася ва Украіне?» — «Натуральна! Выдатныя людзі, цудоўная краіна!» — «А што вас здзівіла ва Украіне?» — «Здзівіла, што большасць гэтых выдатных людзей жадаюць эміграваць з гэтай цудоўнай краіны».

ТРАДЫЦЫІ

# ЗА І СУПРАЦЬ АБРАЗАННЯ

Алег НОВІКАЎ

**Германскае грамадства раскалолася з-за прынятага на днях закону аб забароне абразання хлопчыкаў.**

Яшчэ нядаўна закон гарантаваў кожнаму грамадзяніну ФРГ, які адносіць сябе да ісламскай канфесіі, права абразаць сваё дзіця. У дадатак, адпаведна таму ж закону, дзяржава павінна была выдзяляць грошы з бюджэту на абразанне хлопчыкаў з сямей, якія маюць матэрыяльныя праблемы.

Магчыма, займацца тэмай анатоміі палавых органаў аўтары законаў не хацелі з-за нацыстаў. У часы Гітлера абразанне як элемент іудаізму было цалкам забароненае. Пацярпелі нават самыя чыстакроўныя арыйцы, якія перанеслі аперацыю на пенісе ў дзіцячым узросце з-за розных хваробаў. Часта іх, прыняўшы за яўрэяў, заганялі ў канцлагер.

Сваю ролю ў грамадскай дыскусіі наконт абразання адыграла мода на яго. Увогуле, у абразанні бачылі медычны сродак і раней. Так, у Вялікабрытаніі ў віктарыянскія часы былі ўпэўненыя, што абразанне дапамагае ад хваробы палавых органаў, асабліва ў калоніях. Гэта прывяло да масавага абразання ўсяго брытанскага войска.

Апошні бум абразання на Захадзе меў месца ў 1960-я гады. Яго сталі рабіць як сталым мужчынам, так і (па просьбе бацькоў, натуральна) нованароджаным. Пра рэлігію гаворкі не было: крайняй плоці пазбаўляліся і хрысціяне, і будысты, і атэісты. Чыннікам сталі вынікі даследаванняў, якія вывучалі сувязь паміж абразаннем і ракам палавых органаў. Як высветлілася, у яўрэяў і арабаў гэта хвароба практычна не сустракаецца, а рак шыйкі маткі ў жанчын з тых жа этнічных груп узнікае ў 6–7 разоў радзей, чым у астатніх. Гэтыя дадзеныя так уразілі заходняе грамадства, што прэзідэнт ЗША Джон Кенэдзі стаў публічна прапагандаваць ідэю ўсячэння крайняй плоці і натхняў на гэта асабістым прыкладам. Масавае захапленне абразаннем у 1960-х прайшло толькі ў 1980-я гады.

Яшчэ праз 10 гадоў падыходы да абразання пачалі мяняцца на дыяметральныя. У пачатку 1990-х сярод юрыстаў ФРГ узнікла фракцыя праціўнікаў такога кшталту хірургіі. Пытанне ставілася так: «Выдаленне любой часткі цела арганізма чалавека без яго згоды недапушчальнае». А паколькі немаўля не можа даць згоду на адсячэнне ўласнай крайняй плоці, гэта працэдура, па меркаванні адэптаў экалогіі чалавека, першапачаткова антыгуманная і падлягае поўнай забароне. Шмат правазнаўцаў казалі пра тое, што легальнае абразанне наўпрост супярэчыць падпісанай Германіяй у 1990 годзе канвенцыі ААН пра



права дзіцяці. 24-ы пункт згаданага дакументу забараняе любыя медычныя аперацыі, якія могуць паўплываць на стан здароўя дзіцячага арганізму.

Крытыкі абразання спрабуюць звязаць гэтую практыку з аперацыямі на жаночых палавых органах, якія папулярныя ў Афрыцы і краінах Усходу. Такія аперацыі асуджаныя прадстаўнікамі сусветнай супольнасці як форма гвалту і дыскрымінацыі па прыкмеце полу. У 2010 годзе ў крымінальнае заканадаўства ФРГ былі ўнесеныя змены, паводле якіх жаночае абразанне караецца тэрмінам зняволення да двух гадоў.

Адначасова «абаронцамі крайняй плоці» была створана сапраўднае дасье фактаў негатыўнага ўплыву абразання на арганізм. Да іх належаць болевы шок (нованароджаным гэту аперацыю робяць часцей за ўсё без анестэзіі), праблемы гігіенічнага характару. Варта сказаць, што існуе і антыдасье. Так, уважліва вывучыўшы спосабы распаўсюду ВІЧ-інфекцыі, вучоныя прыйшлі да высновы, што абразанне — найбольш эфектыўны сродак супраць эпідэміі СНІДу. Па статыстыцы, большасць мужчын, што заразіліся СНІДам палавым шляхам, не прайшлі праз абразанне.

Тым не менш у выніку перамогу ў барацьбе «за» і «супраць» абразання святкуюць яго праціўнікі. 26 чэрвеня суд у Кёльне кваліфікаваў абразанне хлопчыкаў, якое ўжываецца ў ісламе і іудаізме, як прычыненне цялесных пашкоджанняў. Займацца абразаннем Феміда была вымушана з-за невялікай трагедыі. Пасля аперацыі абразання малалетняга хлопчыка па просьбе яго бацькоў у пацыента ўзніклі праблемы. Бацькі былі вымушаны адвезці сына ў лякарню, і пра здарэнне даведалася пракуратура. Дарэчы, суд таго ўрача апраўдаў.

Пастанова кёльнскіх судоў выклікала каскад крытыкі з боку грамад, якія практыкуюць абразанне. Яны пабачылі ў дакуменце замах на сваю культурную ідэнтычнасць. Так, Дзітэр Грэўман, старшыня нямецкага Цэнтральнага савета яўрэяў, заявіў, што новы закон «крымінальізуе іудзейства». Адначасова Ізраільскі парламент выказаў занепакоенасць рашэннем суда ў Кёльне, які забараніў абразанне хлопчыкаў па рэлігійных матывах. А канферэнцыя габрэйскіх рабінаў назвала яго найбольш сур'ёзным замахам на габрэяў пасля Халакосту.

Як і трэба было чакаць, не ў захапленні ад прававых інавацый і сябры мусульманскай грамады. 19 турэцкіх арганізацый, уключаючы турэцка-нямецкі саюз, падпісалі агульную заяву, у якой называюць прававы акт «шакуючым». Вядучая ісламская арганізацыя ФРГ — Мусульманскі савет — лічыць закон пра абразанне не адпавядаючым «статусу прававой дзяржавы».

Цікава, што абурэнне іудзеяў і мусульман падзяляюць каталікі. Арганізацыя «Нямецкая канферэнцыя біскупаў» прыйшла да высновы, што закон пра забарону абразання абмяжоўвае права бацькоў на свабоду веравызнання.

Таксама крытыкі закону спасылаюцца на замежны вопыт. У краінах, дзе забаронена абразанне, яго ахвярамі выступаюць менавіта дзеці, якіх закон быццам павінен абараняць. Часта бацькі робяць абразанне нелегальна ў антыгігіенічных падпольных умовах з удзелам некваліфікаваных спецыялістаў, што можа мець кепскія наступствы для здароўя хлопчыкаў. Яшчэ адным выйсцем з сітуацыі для веруючых бацькоў могуць стаць паездкі ў краіны, дзе такая паслуга аказваецца легальна.

Хапае і тых, хто вітаў рашэнне пра забарону. Гэта шэраг грамадскіх арганізацый, якія працуюць з дзецьмі. Падпісалася пад законам і Нямецкая асацыяцыя дзіцячых хірургаў (DGKCH), якая лічыць рашэнне суддзяў «сапраўдным свядомым і мужным выбарам». Па іх словах, ніякай дыскрымінацыі рэлігійных камун у законе няма. «Яго задача — прававы пераслед хірургаў, якія насуперак прынцыпам медыцынскай этыкі ігнаруюць жаданне пацыента і праводзяць над яго целам хірургічную аперацыю», — гаворыцца ў тэксце заявы DGKCH.

Натуральна, падтрымалі закон і атэісты. Міжнародны саюз атэістаў прыняў па гэтай праблеме адпаведную рэзалюцыю. Па іх словах: «Гэта кульмінацыя справядлівасці! Прысуд суда ў Кёльне гарантуе ў будучыні правы дзіцяці ў дачыненні да ўлады, якая часам можа быць клерыкальнай».

Аднак канчатковае святкаванне кульмінацыі справядлівасці ваяўнічым атэістам пакуль давядзецца адкласці. Рашэнне суда Кёльна ўжо абскарджанае ў Канстытуцыйным судзе, дзе і прымуць фінальнае рашэнне. Праўда, з улікам цяперашніх эмоцый, вердыкт наўрад ці заспакоіць прадстаўнікоў абодвух лагераў. Таму, на думку большасці аналітыкаў, справа паступова будзе рухацца ў бок прыняцця спецыяльнага заканадаўства, якое будзе рэгламентаваць гэтую спецыфічную сферу.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### МАНУЭЛЬ ВАЛЬС



Міністр унутраных спраў Францыі жорстка адрэагаваў на навіну з Сэнт-Эцьена, дзе ананімныя вандалы разбурылі 50 магіл нямецкіх салдат часоў Першай сусветнай вайны. Міністр асабіста паабяцаў злавіць і пакараць нягоднікаў. Па яго словах, такія ўчынкі непрымальныя ў Францыі. Прэса піша, што няма ніякіх сумневаў наконт таго, што акцыя мела палітычны падтэкст. Вакол месца злачынства хапае намаляваных свастык і розных антынямецкіх графіці. Акрамя таго, памятныя знакі на магілках разбурылі напярэдадні візіту ў Францыю нямецкага прэм'ера Ангелы Меркель. Апошняя разам з прэзідэнтам Франсуа Аландам наведала Рэймс, каб ушанаваць 50-ю гадавіну падпісання мірнай дамовы паміж Францыяй і ФРГ. Між тым, газеты пішуць, што выхадка можа быць звязаная са стогадовай гадавінай Першай сусветнай вайны, якую будуць адзначаць роўна праз 2 гады. Ужо зараз прэса Германіі і Францыі надае шмат увагі гэтай падзеі. Не выключана, што ў некаторых сем'ях, якія пацярпелі ад нямецкіх войскаў, дасюль моцныя антынямецкія фобіі, якія адгукаюцца ў выглядзе атак на магілкі.

### АЛІ ХАМЕНЭІ



Духоўны лідар Ірана ўпершыню заклікаў насельніцтва краіны рыхтавацца да вайны і канцу свету. Пра гэта гаворыцца ў апошнім пасланні іранцам. Яго аўтар заклікаў вернікаў чакаць прыходу 12-га, «схаванага», імама Махдзі. Паводле веры шыітаў, Махдзі павінен прыйсці падчас апошняга суда для выратавання свету і для ўсталявання ісламскага сусветнага парадку. Духоўны лідар адзначыў, што сёння абавязак іранцаў — «рыхтавацца да прыходу вялікага лідара». «Калі мы лічым сябе ваярамі дванаццатага імама, то павінны быць гатовыя да вайны», — дадаў ён. Раней, як паведамлялі мясцовыя СМІ, іранскія ўлады ўжо кінуліся распаўсюджваць брашуру «Апошнія шэсць месяцаў» сярод сваіх вайскоўцаў, настройваючы іх рыхтавацца да прыходу імама і да змагання з набіраючым ядзерную моц Захадам. Таксама раней пад кіраўніцтвам Хаменэі ў Іране было адкрыта некалькі цэнтраў па вывучэнні і збору інфармацыі пра прыход Махдзі. Акрамя таго, штогод на гэту тэму праводзяцца канферэнцыі.

### НЭЙЛА АЛІ МАХМУД

Жонка новага прэзідэнта Егіпта Махамеда Морсі ў сваім першым інтэрв'ю адмовілася ад таго, каб яе называлі «першая лэдзі», і заявіла, што не будзе браць удзел у публічным жыцці і палітыцы. Усё таму, што Нэйла — паслядоўная прыхільніца ісламскай сямейнай традыцыі, дзе месца жонкі — сям'я. Яна і яе муж выхоўваюць 5 дзяцей. Такая пазіцыя значыць разрыў у традыцыі інстытуту егіпецкіх першых дам. Папярэдніцы Нэйлы — Сюзанна Мубарак і Джыхан Садат — вялі публічнае жыццё, як і іх еўрапейскія калегі. Між тым, шмат хто сумняваецца, што Нэйла проста будзе мыць посуд падчас кадэнцыі мужа. Яна, безумоўна, мае ўплыў на сваю другую палову. Менавіта яна ўцягнула Махамеда ў ісламскі рух у той час, калі будучы прэзідэнт вучыўся ў Каліфорніі. Дарэчы, некаторыя заходнія выданні ўзгадалі гэтую старонку біяграфіі Морсі. Усё таму, што апошні знаходзіўся ў Злучаных Штатах падчас сэксуальнай рэвалюцыі 1970-х гадоў і, на думку жоўтай прэсы, бываў на фрывольных студэнцкіх вечарынках. Аднак пакуль, нягледзячы на ўсе высілкі, жоўтыя рэпарцёры кампрамату на Морсі не знайшлі.



▸ ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# WOJSKO RUSKIE BERLIN BRAŁO, WOJSKO POLSKIE POMOGAŁO,

## АБО ДЗЕЛЯ ЧАГО ПАТРЭБНА ПРАВОДЗІЦЬ ВАЕННА-ГІСТАРЫЧНЫЯ РЭКАНСТРУКЦЫІ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У гісторыі Другой сусветнай вайны ўсё ж застаюцца гістарычныя аспекты, пра якія сёння мала ўзгадваюць. Адным з такіх з'яўляецца ўдзел частак Народнага Войска Польскага (LWP) у сумесных вайсковых аперацыях з Чырвонай Арміяй у 1943–1945 гадах.**



Пераможцы. Байцы НВП і савецкія афіцэры, 30 чэрвеня 1945 г. (з архіва, публікуецца ўпершыню)

Парадаксальна, але ў савецкія часы гэта тэматыка была вельмі папулярнай. Камуністычныя ўлады ў ідэалагічным сэнсе карысталіся подзвігам салдат 1-й польскай пяхотнай дывізіі імя Т. Касцюшкі пад беларускай вёскай Леніна, гераізмам байцоў і камандзіраў 1-й і 2-й польскіх армій, якія разам з савецкімі салдатамі вызвалялі Еўропу і бралі Берлін у маі 1945 года.

Аднак прайшоў час, распаўся Савецкі Саюз, і гэтую старонку гісторыі амаль забылі. Сітуацыя пагаршалася яшчэ і тым, што ў Польшчы «касцюшкаўцаў» і іншых ветэранаў НВП аднеслі да другой катэгорыі камбатантаў. Пра што казаць, калі нават знакаміты фільм «Чатыры танкіста і сабака» некаторы час быў забаронены да паказу на польскім тэлебачанні.

У Беларусі да апошняга часу гэтай тэме таксама не надавалася належнай увагі. Аднак сітуацыя змяняецца. І адбываецца гэта дзякуючы энтузіястам, якія займаюцца ваенна-гістарычнай рэканструкцыяй. Па сваёй волі, без разнарадак і загадаў зверху, гэтыя людзі вяртаюць беларусам забытыя старонкі айчыннай гісторыі.

У гэтыя спякотныя ліпеньскія дні сябры групы ваенна-гістарычнай рэканструкцыі «Беларусы ў Войску Польскім» прынялі ўдзел у трох буйных ваенна-гістарычных мерапрыемствах у Беларусі. 1 і 2 ліпеня на тэрыторыі гісторыка-культурнага комплексу «Лінія Сталіна», што пад Мінскам, адбылася чарговая рэканструкцыя баёў за вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З года ў год гэтае мерапрыемства праходзіла практычна па аднаму сцэнару. Савецкія войскі наступаюць і ўшчэнт разбіваюць адступаючых «фрыцаў». Аднак у гэты раз сцэнар мерапрыемства давялося змяніць. Прычынай гэтаму стала з'яўленне на поле бітвы нас у мундзірах 1-й польскай пяхотнай дывізіі імя Т. Касцюшкі.

Справа ў тым, што ў маі 1943 года ў вёсцы Сяльцы пад Масквой пачалося фармаванне польскай дывізіі для выкарыстання яе на ўсходнім фронце. 12–13 кастрычніка 1944 года пад вёскай Леніна (Магілёўская вобласць) гэта вайсковая частка, якая ўваходзіла ў склад 33-й арміі Заходняга фронту, удзельнічала ў прарыве нямецкай лініі абароны. У ходзе тых баёў «касцюшкаўцы» страцілі 502 чалавекі забітымі.



Каманда рэканструктараў (першы злева Ігар Мельнікаў)

Фота аўтара

16 сакавіка 1944 года была створана 1-я польская армія пад камандаваннем З. Берлінга, а праз некалькі месяцаў з'явілася і 2-я армія. У верасні 1944 года часткі НВП спрабавалі дапамагчы Варшаўскаму паўстанню. У пачатку 1945 года 1-я польская армія ўдзельнічала ў бітве за Паморскі вал.

Аднак найбольш буйным выпрабаваннем для дзвюх польскіх армій быў штурм Берліна. Тады ў склад 1-га Беларускага фронту ўвайшла 1-я польская армія, а ў склад 1-га Ўкраінскага фронту — 2-я польская армія і 1-ы танкавы корпус Войска Польскага. Трэба ўлічваць, што пры фармаванні польскіх частак на тэрыторыі СССР у іх набіралі не толькі этнічных палякаў, але і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, у тым ліку і беларусаў.

У правацэ апошняга мы пераканаліся, калі пераапранутыя ў мундзіры «касцюшкаўцаў» і ў «поўнай баявой» экіпіроўцы выйшлі да наведвальнікаў гісторыка-культурнага комплексу. «Во, палякі, глядзі. А ў мяне дзед у гэтым войску ў 1944 служыў», — адразу ж пачуліся радасныя воклічы з розных бакоў. Да нас падыходзілі людзі і з зацікаўленасцю разглядалі знаёмую па сямейных фотаздымках уніформу. «Хлопцы, дык у мяне ж таксама дзядзька служыў у Войску Польскім у 1944-м», — звярнуўся да нас старшыня дабрачыннага фонду «Памяць Афгана» Аляксандр Мятла. «Добра, што вы прыехалі і бераце ўдзел у нашай рэканструкцыі», — падкрэсліў ён.

Аказалася, што родныя шматлікіх наведвальнікаў і ўдзельнікаў гістарычнага відовішча так ці інакш былі звязаны з перадваенным Войскам Польскім або з польскай арміяй, якая была створана ў СССР у 1941–1943 гадах.

А як нас сустракалі пасля «бітвы». Некалькі сотняў гледачоў з захапленнем апладзіравалі байцам і камандзірам савецкай арміі і Войска Польскага, якія ізноў перамаглі і вызвалілі беларускую вёску ад фашыстаў.

А ўжо на наступны дзень, 3 ліпеня, мы былі запрошаны да ўдзелу ў рэканструкцыі баёў за вызваленне Гомеля. І вось тут пачаліся праблемы. Па-першае, нам «параілі» прыбраць польскі сцяг, які мы выкарыстоўвалі падчас відовішча на «Лініі Сталіна». Маўляў, навошта тут сцяг іншай дзяржавы. У нас тут Беларусь, а не Польшча. Разам з гэтым, тое, што «польская» група з'явілася са сцягам, прымусіла рэканструктараў у строях савецкай арміі тэрмінова шукаць чырвоны сцяг, з якім трэба было «ісці ў атаку».

Аднак інцыдэнт са сцягам быў толькі паловай праблемы. Горш за ўсё, што жыхары Гомеля, якія прыйшлі паглядзець ваенна-гістарычную рэканструкцыю, банальна не ведалі, хто ж гэтыя хлопцы і дзяўчаты ў характэрных квадратных галаўных уборах. Да дзвюх дзяўчат, якія ўваходзілі ў наша падраздзяленне, падышло нават некалькі фотакарэспандэнтаў з «доўгімі аб'ектывамі» і запыталі: «А вы хто, бандэраўцы»? У след мне і маім калегам некалькі разоў ляцелі словы: «Паліцаі, фашысты».

Скажу шчыра, мне, этнічнаму беларусу, было сорамна за сваіх суайчыннікаў. За тое, што яны не ведаюць сваю гісторыю і не шануюць памяць салдат польскай арміі, якія выбралі самы блізкі шлях да Польшчы і плячом да пляча разам з байцамі савецкай арміі змагаліся супраць карычневай чумы.

Пасля рэканструкцыі бою гледачам многае стала зразумела. Яны ўбачылі хлопцаў і дзяўчат у «рагатыўках», якія, пераправіўшыся праз канал, з крыкам «Ура» пайшлі ў атаку на немцаў. «Палякі, палякі», — пачулася з боку трыбун.

А мне падумалася: «Не, мы Войска Польскае, але ў нашых шэрагах беларусы, палякі, рускія, яўрэі». Нават гэты важны момант аўтэнтыкі мы захавалі. Падчас урачыстага маршу людзі з захапленнем апладзіравалі нашаму падраздзяленню. Яны зразумелі, што мужнасць салдат Войска Польскага, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, заслугоўвае пашаны з боку беларусаў.

У адной з сацыяльных сетак пад здымкамі з мерапрыемства мой польскі калега напісаў наступныя словы: «Калі я ўбачыў гэтых дзяўчат у польскіх мундзірах, вас у рагатыўках, у мяне з'явіліся слёзы на вачах. Я ўспомніў сваю бабулю, якая ў такім жа ўзросце, як гэтыя беларускія дзяўчаты, уступіла ў НВП і ваявала ў жаночым батальёне. Вельмі добра, што на Беларусі адбываюцца такія ваенна-гістарычныя рэканструкцыі. Нельга лічыць «касцюшкаўцаў» ветэранамі другой катэгорыі. Нельга забываць, што разам з савецкім сцягам у зрынутым Берліне быў і польскі сцяг. І трымалі яго тыя, хто пачынаў свой баявы шлях з Сяльцоў пад Разанню і Леніна ў Беларусі».

Нельга не пагадзіцца з гэтымі словамі. Галоўнай задачай ваенна-гістарычнай рэканструкцыі якраз і з'яўляецца дэманстрацыя праўдзівага ў гістарычным сэнсе твару той жудаснай вайны. Мяркуючы па апладысментах гледачоў і захапленні, з якім яны разглядалі «польскую вайсковую адзінку», спадзяюся, што нам удалося ў пэўным сэнсе знішчыць стэрэатыпы ў мысленні некаторай часткі беларусаў.



ПАМЯЦЬ

# РАССТРЭЛ ПА РАЗНАРАДЦЫ

Ігар КУЗНЯЦОЎ

**31 ліпеня 1937 года палітбюро ЦК ВКП(б) зацвердзіла аператыўны загад №00447 «Аб аперацыі па рэпрэсаванні былых кулакоў, крымінальнікаў і іншых антысавецкіх элементаў», падпісаны народным камісарам унутраных спраў М.І. Яжовым.**

З загада: «Перад органамі дзяржаўнай бяспекі стаіць задача — самым бязлітасным чынам разграміць усю гэту банду антысавецкіх элементаў, абараніць працоўны савецкі народ ад іх контррэвалюцыйных інтрыг і, нарэшце, раз і назаўсёды скончыць з іх подлай падрыўной дзейнасцю супраць асноў савецкай дзяржавы».

Згодна з загадам, «усе найбольш варожыя» элементы (першая катэгорыя) падпадалі пад расстрэл, «менш актыўныя, але ўсё ж варожыя элементы» (другая катэгорыя) знявольваліся ў лагеры або турмы на тэрмін ад 8 да 10 гадоў. Вызначаліся ліміты рэпрэсій па кожнай з катэгорый, у цэлым для 64 тэрытарыяльных адзінак — 40 абласцей, краёў і аўтаномных рэспублік РСФСР, 8 абласцей на Украіне і ў Казахстане і 8 саюзных рэспублік.

Гэта рэгламентацыя, вызначэнне цэнтрам лімітаў на знішчэнне і зняволенне ў лагеры адрознівала загад №00447 ад іншых рэпрэсіўных кампаній Вялікага Тэрору. У аперацыях супраць «нацыянальных контррэвалюцыйных кантынгентаў» не было «расстрэлаў па разнарадцы», мясцовыя кіраўнікі, начальнік Упраўлення НКУС (УНКУС) і галоўны пракурор («двойка»), санкцыянавалі складанне органамі бяспекі спісаў асобаў, што падпадалі пад арышты, і адпраўлялі іх з кур'ерам у Маскву, дзе вышэйшая «двойка» (народны камісар унутраных спраў Яжоў і генеральны пракурор СССР Вышынскі) выносіла вердыкт.

Загад №00447 прадугледжваў расстрэл 75 950 чалавек, з іх 10 000 зняволеных ГУЛАГа, і накіраванне ў лагеры і турмы 193 000 асобаў, агульны кантынгент рэпрэсій ахопліваў 268 950 «антысавецкіх элементаў».

Першапачаткова па Беларускай ССР па 1-й катэгорыі (расстрэл) і 2-й катэгорыі (10 гадоў лагераў) планавыя лічбы вызначаліся, адпаведна, 2 000 і 10 000 чалавек. Лічбы былі прыкладныя — толькі праз запыт да народнага камісара ўнутраных спраў іх маглі падвысіць. Іх маглі, аднак, таксама і знізіць без узгаднення з Масквой. Было дазволена пераразмеркаванне паміж 1-й і 2-й катэгорыямі. Факты значнага перавышэння мінімальных генацыдных разнарадакназіраліся паўсюдна.

Аперацыя павінна была пачацца 5 жніўня (у сярэднеазіяцкіх рэспубліках — 10, а ва Усходне-Сібірскай вобласці, Краснаярскім і Далёкаўсходнім краях — 15 жніўня) і завяршыцца на працягу чатырох месяцаў.

Кожная тэрыторыя была падзелена на аператыўныя сектары (у Беларусі — шэсць), у рамках якіх аператыўныя групы складалі спісы арыштаў, здзяйснялі затрыманні і праводзілі следства. Усё гэта павінна было адбывацца «паскораным і спрошчаным чынам».

Вышынскі, які з'яўляўся па канстытуцыі абаронцам сацыялістычнай законнасці, інструктаваў падпарадкаваных яму дзяржаўных пракурораў, што «выкананне працэсуальных нормаў і папярэдняя санкцыі на арышт [ад пракурораў] не патрабуюцца». Наадварот, ад сваіх падначаленых ён патрабаваў «актыўнага садзейнічання паспяховаму правядзенню аперацыі» і «захавання сакрэтнасці ў апараце пракуратуры».

Сталін у студзені 1939 года ў лісце да партыйных кіраўнікоў і начальнікаў УНКУС паведамляў, «што ўжыванне фізічнага ўздзеяння ў практыку НКУС было дапушчана з 1937 года з дазволу ЦК ВКП(б)».

* * *

На мяжы 1937–1938 гадоў чэкісты ў дадатак да шматлікіх, ужо апрабаваных метадаў катаванняў (працяглыя бесперапынныя допыты, збіццё), вынайшлі новы — так званую «стойку». Чалавек 100–150 зганялі ў адзін пакой, усіх іх ставілі тварам да сцяны і па некалькі дзён не дазвалялі садзіцца і спаць да таго часу, пакуль арыштаваныя не давалі сведчанняў. Нішто не ў стане лепш ахарактарызаваць жорсткасць гэтых метадаў, як тая акалічнасць, што толькі ў Беларусі падчас допытаў былі забіты больш за 20 зняволеных.

Падрабязнасці выканання прысуду маглі выкарыстоўвацца следчымі для запалохвання арыштаваных — так, асабіст Мінскага аператыўнага сектара НКУС Ф. Воранаў у 1937 годзе казаў аднаму з іх: маўляў, «павядуць у падвал... пры гэтым супрацоўнік, які павядзе, будзе ісці ззаду і дасць некалькі стрэлаў у патыліцу...» Арыштаваныя ў гады тэрору чэкісты, выдатна ведаючы пра спосабы расправы, часта гублялі самакантроль.

Дэфармацыя асобы катаў прыводзіла да нястрымнай патрэбы выхваляцца ўдзелам у пакараннях смерцю, нягледзячы на падпіску пра захаванне таямніцы. Пра ўласны садызм адстаўныя чэкісты маглі ўзгадваць як пра доблесць і патрабавалі павагі.

У савецкай расстрэльнай практыцы 1920–1940-х гадоў рабаванне ахвяр было звычаем. Каты абшуквалі трупы, збіралі грошы. Пасля выканання прысуду іх выдаткоўвалі на вячэру з выпіўкай.

Адкрыты садызм практыкавалі вельмі шмат расстрэльшчыкаў ва ўсіх гарадах СССР, у тым ліку і ў Мінску. Супрацоўнік мінскага гараддзела НКУС БССР М. Падбрэзкін у 1939 годзе распавёў пра такія злачынствы свайго начальства: «Адначасова хачу спыніцца на той практыцы,



СТРОГО СЕКРЕТНО

Снятие копий воспрещается

Кому послана тов. Ежову

ПОДЛЕЖИТ ВОЗВРАТУ В 48 ЧАС.

(Пост. ПБ от 5 мая 27 г. пр. № 100, п. 6)

Прот. П.Б. № 61 п. 58

25.IV.38 г.

ШИФРОВКА

Из ИРКУТСКА отправлена 15-54 26.IУ 1938 г. Поступила в ЦК ВКП

на расшифрование 26.IУ 1938 г. ч. 19 м. -

Вх. № 472/Ш

МОСКВА ЦК ВКП(б) тов.СТАЛИНУ.

Н К В Д тов.ЕЖОВУ.

Ввиду значительной засоренности области право-троцкистскими пан-монгольскими и кулацко-белогвардейскими элементами, подпадающими под первую категорию, просим ЦК ВКП(б) разрешить дополнительный лимит по первой категории для Иркутской области 4 тысячи.

И.О.СЕКРЕТАРЯ ИРКУТСКОГО ОБКОМА ВКП(б) ФИЛИППОВ.

НАЧАЛЬНИК НКВД ПО ИРКУТСКОЙ ОБЛАСТИ МАЛЫШЕВ.

т. Микоян - за

т. Чубарь - за.

Расшифрована 26.IУ 1938 г. в ч. 19 м. 20 Напечатано 4 экз. Паршин.

ИЗВЛЕЧЕНИЕ ИЗ ИНСТРУКЦИИ:

Шифротелеграмма должна храниться только в секретных хранилищах.

При ссылках на текст шифротелеграммы воспрещается указывать, что цитируемый текст получен шифром, также воспрещается указывать и номера шифровок.

Ответ на шифровку посылается также в шифрованном виде; текст передаваемого шифром сообщения составляется коротко и ясно; пишется только в одном экземпляре, который и передается на шифрование.

якая была ўведзена Болдзіным пры выкананні прысудаў. Болдзін і супрацоўнік гараддзела Гантарэнка перад прывядзеннем прысуду ў выкананне выклікалі арыштаваных і пад выглядам пачатку новага іх допыту па-зверску збівалі палкамі і адмысловай гумай. Гэта інсцэнавалася пытаннямі: «Ці прызнаеш сябе вінаватым?», і білі да таго часу, пакуль асуджаны не заяўляў, што ён вінаваты, пасля чаго праводзілі прысуд у выкананне. Пры гэтым заўсёды прысутнічаў вахцёр Машчэнка, мне ж часта амаль сілай даводзілася адводзіць асуджанага, а часта пасля збіцця выносіць».

Супрацоўнік НКУС БССР Коба ў 1937–1938 гадах арганізоўваў масавыя аперацыі па выкананні смяротных прысудаў. Пра тое, як С. Коба эканоміў патроны, сведчылі яго падначаленыя. Так, «І. Стэльмах паказаў, што, выконваючы аперацыю па прывядзенні прысудаў пра расстрэл над вялікай колькасцю рэпрэсаваных, С. Коба належным чынам правядзенне гэтай аперацыі не арганізаваў, працэ насіў пакутлівы характар, таму што шматлікія рэпрэсаваныя заставаліся паранеными і, па ўказанні Кобы, іх дабівалі ломам». Калі падначалены ўвосень 1937 года яму даклаў, што адзін з п'яных катаў спрабаваў падарваць асуджанага з дапамогай электрадэтанатара, С. Коба заявіў: «Не тое яшчэ рабілі, галоўнае — хутчэй расстрэльваць ды берагчы патроны». Адзін з чэкістаў паказваў: «...Неяк у кастрычніку 1937 года давялося быць у падвале пры правядзенні адной з аперацый і бачыць, што расстрэл здзяйсняўся супрацоўнікамі, якія былі нецвярозымі і ў абстаноўцы поўнай дэзарганізацыі».

* * *

Пункт 5 загада вызначаў склад і кампетэнцыю «троек». Калі меркаваць па шматлікіх факсімільных рэпрадукцыях спраў «троек» у рамках загада №00447, то найбольш ужыванай была саманазва «тройка пры УНКУС СССР па [Калінінскай, Маскоўскай, Омскай вобласці і г.д.]». У Ленінградзе гэты орган называўся «Асобая тройка УНКУС ЛА», а ў Яраслаўлі над пратаколамі «тройкі» захаваны загаловак: «тройка пры Упраўленні НКУС Яраслаўскай вобласці па пазасудовым разглядзе спраў».

Нароўні з заснаванай загадам №00447 «тройкай» і «Асобай тройкай», уведзенай у верасні 1938 года, падчас Вялікага Тэрору існавала яшчэ адна пазасудовая інстанцыя, якая называлася «тройкай», так званая міліцэйская ці пашпартная «тройка», якая магла асуджаць да пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да пяці гадоў.

Загад №00447 утрымлівае спіс імёнаў чальцоў 64 «троек», прычым указана, хто з'яўляецца старшынёй (кіраўнік мясцовага УНКУС) і абодвума чальцамі «тройкі» (сакратар партыі і, як правіла, галоўны дзяржаўны пракурор рэгіёна).

Тая акалічнасць, што ў якасці старшынёў «троек» выступалі прадстаўнікі НКУС, а дакладней, Галоўнага Упраўлення дзяржаўнай бяспекі, пасля таго, як яго апарату ўжо былі перададзены функцыі ўліку, арышту, дазнання і следства, гарантавала дамінантнае становішча «органаў» пры правядзенні аперацыі.

Акрамя трох «суддзяў» на пасяджэнні прысутнічалі сакратар, які вядзе пратакол, і прадстаўнік органа, што праводзіў следства (таемная паліцыя, міліцыя ці аддзел месцаў зняволення НКУС). Пасля кароткага паведамлення дакладчыка і на падставе пісьмовага апісання справы, дзе прапанавалася аднясенне да катэгорыі 1 ці 2, «тройка» выносіла свой прысуд. У пратаколах часам нават не пазначаўся артыкул Крымінальнага кодэкса, які адпавядаў прысуду. І такое канвеернае правасуддзе за адно пасяджэнне асуджала сотні «антысаветчыкаў».

«Тройкі» выносілі свае прысуды за зачыненымі дзвярамі, ні разу не ўбачыўшы і не пачуўшы абвінавачванага, не даючы яму ніякай магчымасці для абароны, толькі на падставе падрыхтаваных следчымі дакументаў.

Асуджаным «тройкай» да смяротнага пакарання не паведамлялі прысуду (падпісаная Фрыноўскім дырэктыва НКУС №424 ад 8 жніўня 1937 г. гэта забараняла). Яны паміралі, не пачуўшы яго.

Прадпісанне загада №00447 захоўваць «у таямніцы час і месца прывядзення прысуду ў выкананне» выконвалася доўга. НКУС распаўсюджвала пра лёс асуджаных «пазасудовымі органамі» да смерці густы туман хлусні — і больш за паўстагоддзя ўжывалася гэта стратэгія падману.

Выдадзены ў 1939 годзе загад №00515 прадпісваў на запыты сям'і даваць адказ: «дзесяць гадоў выпраўленча-працоўных лагераў (ІТЛ) без права перапіскі». У 1945 годзе ім нарэшце паведамілі, што іх сваякі, асуджаныя да 10 гадоў ІТЛ, памерлі ў зняволенні. Толькі пасля 1989 года ў рамках рэабілітацыі цэлыя пакаленні савецкіх грамадзян даведаліся сапраўдныя прычыны і даты смерці сваіх дзядоў, бацькоў і сяброў. Месцы пакаранняў смерцю і масавых пахаванняў былі адкрыты таксама толькі ў 1990-я гады.

Паводле ацэнак, у Мінску сёння знаходзіцца больш за дзесяць месцаў масавых расстрэлаў перыяду 1920–1940-х гадоў. Расстрэлы здзяйсняліся таксама яшчэ ў не менш чым 40 населеных пунктах рэспублікі. А колькі месцаў масавых пахаванняў і расстрэлаў не выяўлена да гэтага часу?

Ёсць сведчанні пра тое, што ў 1920-я гады АДПУ здзяйсняла расстрэлы ў раёне цяперашняга Камароўскага рынка, таварнай станцыі, на тэрыторыі дач АДПУ ў Драздах.

Масавыя расстрэлы ў 1930–1940-я гады праводзіліся таксама ва ўрочышчы Курапаты і ў раёне Лошыцы, Дражні, Сцяпянкі і Масюкоўшчыны. Адкідаваныя расстрэлы вяліся на Кальварыйскіх могілках, а трупы ўночы закопвалі ва ўжо існуючыя магілы. Яшчэ адно пахаванне, пра якое вядома мала каму, было выяўлена падчас будаўніцтва станцыі метро «Пушкінская». Там для канспірацыі праведзенай акцыі ў жывёльным могільніку, дзе былі пахаваныя заражаныя сібірскай язвай жывёлы, закапалі трупы 300 чыгуначнікаў, расстраляных у 1937 годзе па асабістым загадзе наркама Кагановіча (пахаванне было знішчана пры будаўніцтве метрапалітэна — І.К.).

У перыяд з 1937 па 1941 гады масавыя расстрэлы праводзіліся таксама ў раёне цяперашняй прамысловай зоны Шабаны і ў раёне ўрочышча Благоўшчына. Нягледзячы на тое, што ў Благоўшчыне акупанты падчас вайны расстралялі больш за 140 тысяч мірных жыхароў, гэта не дае права забываць пра сотні і тысячы нашых суграмадзян, расстраляных супрацоўнікамі НКУС у 1937–1941 гадах.

▸ СВЯТА

# КУПАЛЬСКІЯ ХВАЛІ АРЭСЫ

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Надышоў ліпень — час, калі па ўсёй Беларусі святкуюць Купалле, паляць вогнішчы, калі па рэках і азёрах плывуць купальскія вянкі, а маладыя дзяўчаты і хлопцы шукаюць легендарную Папараць-кветку…**



Гурт «Калыханка»



На сцэне «UR'IA»



Любань вітае «Таўкачыкі»



Карагод ля вогнішча

У кожным беларускім горадзе, мястэчку ці вёсачцы цяпер можна трапіць на Купалле, якое нясе адбітак мясцовых традыцый святкавання, і ў той жа час мае шмат агульнага, што лучыць гэтае свята ў агульнанацыянальнае. Вось такі сінтэз панбеларускага і лакальнага, старажытнага і сучаснага ўдалося назіраць падчас святкавання Купалля на гасціннай Любанскай зямлі. Ініцыятыва правядзення любімага ў народзе свята Купалля ў новым фармаце належала двум беларусам — загадчыку аддзела культуры Любанскага райвыканкама Васілю Сцяпанавічу Каткаўцу і вядомаму фалькларысту і фолк-рок-музыканту Юрасю Выдронку, які і прапанаваў любанцам правесці чарговы, восьмы па ліку, фестываль «Таўкачыкі на Купалле» ў іх горадзе.

Зрэшты, жыхарам, а таксама спеўным гуртам і выканаўцам Любані Юрась знаёмы яшчэ з 2004 года, калі з ініцыятывы сталічнага музыканта на Любаншчыне была зроблена рэканструкцыя старажытнага абраду Юр'я. Таму, даведаўшыся, што ў Любань зноў завітаў фестываль «Таўкачыкі», яе жыхары паспяшаліся ў гарадскі парк адпачынку, які суседнічае якраз са знакамітай па паэме Я. Купалы ракою Арэсай.

Купалле над ракою Арэсай распачалося традыцыйна для гарадскіх умоў — парадам фальклорных калектываў Любаншчыны, які ўзначальваў Купальскі Дзядок. Каларытны фальклорны персанаж перадаў Юрасю Выдронку фестывальную эстафету — купальскую Папараць-кветку, і музычная частка свята распачалася. Канцэртную пляцоўку запоўнілі карагоды маладых купалінак у нацыянальных строях з вянкамі. Гэтая частка святкавання была лагічна працягнута спеўнымі гуртамі, якія прадстаўлялі гаспадароў фестывалю: у першую чаргу, безумоўна, варта згадаць фальклорны гурт «Глыбокія крыніцы» з вёскі Закальное Любанскага раёна. Трэба адзначыць, што гэтыя аўтэнтычныя выканаўцы і іх спеўная манера прызнана гісторыка-культурнай каштоўнасцю.

А падрыхтаваў і вывеў гурт «Глыбокія крыніцы» да шырокай канцэртнай вядомасці сапраўдны энтузіяст фальклорнай музыкі, метадыст Любанскага раённага цэнтра культуры Сяргей Выскварка. Дарэчы, танцавальны гурт «Верабейкі», якім кіруе спадар Выскварка, быў вельмі прыхільна сустрэты землякамі, бо надаў фестывалю шмат рысаў сапраўды народнага свята. І калі суправаджаў сваімі фолк-мадэрнавымі танцамі выступ кампазіцыі гурта «UR'IA», і калі разам з гараджанамі развучваў даўнішнія танцы ля купальскага вогнішча.

Святочная эстафета перайшла да фальклорнага гурта «Нашчадкі», удзельніцы якога выканалі некалькі песень купальскай тэматыкі і завяршылі сваё выступленне абрадам кідання вянкоў на дах (у дадзеным выпадку, на дах сцэнічнай пляцоўкі). Па купальскім павер'і, тая дзяўчына, чый вянок застанецца на даху, сёлета выйдзе замуж. Такія шчаслівыя маладзіцы знайшліся і былі ўзнагароджаны шчырымі апладысментамі любанцаў. Дарэчы, асаблівасцю Купалля ў Любані стаў парад нявест, якія прадстаўлялі розныя мястэчкі і вёскі Любаншчыны. Дзяўчаты былі апрануты ў гожыя святочныя сукенкі з рознакаляровымі стужкамі, на якіх была пазначана мясцовасць, адкуль прыехала патэнцыйная нявеста.

Вядучы «Таўкачыкаў на Купалле» Юрась Выдронак перадаў мікрафон гасцям Любанскай зямлі — спеўнаму гурту «Калыханка» (Міханавічы) пад кіраўніцтвам Л. Рыжковай. Удзельніцы гурта — у асноўным школьніцы — здзівілі слухачоў разнастайным рэпертуарам, шчырасцю і дзіцячай непасрэднасцю выканання. Сапраўды, «Калыханка» заслужыла сваім натхнёным выступленнем на фэсце тыя апладысменты, якімі іх адарыла публіка!

Наступны госць «Таўкачыкаў на Купалле» ў Любані стаў фолк-гурт «Альтанка» пад кіраўніцтва Д. Лук'янчыка. Пра свае адносіны да інструментальнага складу калектыву ўжо даводзілася выказвацца ў артыкулах, прысвечаных мінулым фэстам «Таўкачыкі». Але музыканты, не зважаючы на ўсё, працягваюць граць тую музыку, якая ім падабаецца. Можа, таму і іх музыку таксама ўпадабалі любанцы, хоць многія з іх адзначалі зацягнутасць сэта «Альтанкі» і павольна перамяшчаліся да прахалоднай Арэсы, з цікаўнасцю разглядалі прадукцыю мясцовых народных майстроў.

Так, святочная праграма, якая спадарожнічала святкаванню Купалля ў Любані, таксама была вельмі разнастайнай. І людзі карысталіся магчымасцю пазнаёміцца з ёй бліжэй. Асабліва арыгінальнасцю і апетытнымі пахамі вылучаліся месцы, дзе разгарнулі свае кулінарныя шэдэўры ўдзельнікі мясцовага таварыства аматараў беларускіх нацыянальных страў, а таксама любанскія траўнікі, якія частавалі жадаючых духмянай гарбатай. Пах стаяў навокал, што нос зрывала!

Пасля ўсяго гэтага вяртацца ўсіх на канцэртную пляцоўку давялося ўдзельнікам фолк-рок-шоў «UR'IA». Па-першае, гурт упершыню за апошні час прадстаў у «старым», класічным складзе з Вольгай Рыжковай і кіраўніком фальклорнага гурта «Мотальскія суседзі» Эльмірай Каткавец на вакале. Дарэчы, мой сябра, журналіст В. Мартыненка, — вялікі прыхільнік трылогіі В. Якавенкі «Пакутны век», — шмат чаго цікавага вынес з гутаркі са спадарыняй Эльмірай, якая цікава распавяла яму пра галоўных герояў рамана — рэальных жыхароў Моталя.

«UR'IA» ж выканалі на «Таўкачыках» сваю лепшую праграму з хітоў, якія добра вядомы слухачам у многіх краінах Еўропы. І хоць апрацоўкі і гучанне калектыву адпавядалі стылістычнаму азначэнню «элітарны», «прагрэсіўны фолк-рок», слухачы вельмі добра прымалі «UR'IA», натхнёна танчылі і віталі музыкантаў купальскімі вянкамі.

Па заканчэнні канцэрта Юрась з дапамогай Папараць-кветкі, якую яму ўручыў Купальскі Дзядок, перадаў святочны агонь факельшчыкам, і тыя рушылі да берага Арэсы. Там і запаліліся купальскія вогнішчы, якія прыцягнулі ўвагу тысяч жыхароў горада розных узростаў. Іх чакалі карагоды і скокі праз вогнішчы, старадаўнія танцы, шматлікія святочныя забавы, вянкі, якія па купальскай завядзёнцы пускалі ў Арэсу маладыя дзяўчаты.

Няма сумневу, што Купалле–2012, што адбылося ў Любані на мінулым тыдні, будзе помніцца жыхарам раённага цэнтра доўга. І калі б быў купальскі рэйтынг, то святкаванне ў Любані магло б мець самыя высокія адзнакі за прыхільнасць да нацыянальных традыцыі, за зберажэнне галоўнага песеннага скарбу народа — яго фальклору.

**Новы Час**
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет».
г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 669

Падпісана да друку 13.07.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.